Алесь Паплаўскі

# ГУЛЬНІ З НУЛЯВЫМІ СУМАМІ

Аповесці

Мінск
«Галіяфы»
2020

УДК 821.161.3-31
ББК 84(4Беи)
П17

**Паплаўскі, А.**
П17 Гульні з нулявымі сумамі : аповесці / Алесь Паплаўскі. — Мінск : Галіяфы, 2020. — 274 с.
ISBN 978-985-7209-58-3.

У кнігу ўвайшлі тры аповесці. «Размовы са стодзівамі» — гэта псіхалагічная прытча. Чытачу давядзецца вырашыць, каму суперажываць. Трагічныя лёсы людзей дзіўным чынам пераплятаюцца. У аповесці «Lapido» Павал, ахвяра рэпрэсіўнай дзяржаўнай сістэмы, вымушаны ратавацца ў краіне, дзе ў далёкія савецкія гады ягоны бацька жорстка распраўляўся з паўстанцамі. Дзеянні разгортваюцца на фоне містычнай Прагі. Галоўны герой аповесці «Гульні з нулявымі сумамі» трапляе ў далёкую Палесціну, дзе раздумвае пра свой лёс, спрабуе разабрацца ў мінулым. Самалёт, у якім ён вяртаецца на радзіму, церпіць катастрофу. Што можа выратаваць галоўнага героя?

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7209-58-3**

*«Не кажы, што мінае час:*
*час застаецца, сыходзім мы...»*

*Талмуд*

# 1

Жыццё пачынаецца з хлусні, дробнай і бяскрыўднай. З жыццесцвярджальнага, спакуслівага: «Усю-сю-сю!..» Ты хочаш есці і інстынктыўна цягнешся да белай выспачкі цела, што прывідна ўздрыгвае ў выразе маміная блузкі, і натыкаешся на гэтае п’янкое, шматабяцальнае: «Ух ты, маё любінятка!..» Слязлівасць сціраецца ўсмешкай. Як мала нам патрэбна ў жыцці насамрэч! Але ты патрабуеш большага. Ты патрабуеш недазволенага. Твой рот затыкаюць пустышкай, і гаркавы прысмак гумы крадзе на нявызначаны час твой голад. З узростам імкненне да недазволенага робіцца неабходнасцю. Імклівасць, хуткаплыннасць і разнастайнасць жыцця агаломшваюць цябе. Ты траціш арыенціры. Ты ўжо не здольны вызначыць, хто хлусіць табе, а каму хлусіш ты. Гэта і ёсць сведчанне таго, што ты стаў дарослым. Цяпер табе дазволена ўсё. Ты захапляешся сваёй самадастатковасцю. Выстаўляеш напаказ свае пачуцці. Твой вопыт — узор для пераймання. Насамрэч жа гэта тое, без чаго чалавеку твайго ўзросту можна з лёгкасцю абысціся. Пераважная большасць мерае жыццё іншымі меркамі. Але ты да іх ліку сябе не далучаеш. Ты перакананы, што ты іншы. Так склалася. Стала звычкай. Неабходнасцю. Даведзеным да абсурду імкненнем да спазнання мудрасці, пра якую некаторыя яшчэ нават не здагадваюцца. Ты спяшаешся, робіш памылкі. Ты зайздросціш, хаця лічыш, што зайздросцяць табе. Ты траціш сяброў. Так, усё мае свой кошт. Ты ігнаруеш створаны са-

мім жа вакуум, ты імкнешся запаўняць яго нечым пустым і нязначным. Ты спяшаешся. Верагодна, гэтак жа спяшаецца вязень, які вярнуўся на волю толькі што з-пад варты. Жыццё пераваліла за трыццаць, а ты выразна ўжо адчуваеш на сваёй патыліцы ледзяное дыханне адзіноты. Разуменне таго, што прайшло яно пераважна ў пошуках чужых памылак, неаспрэчнае. Цяпер тваё атачэнне ігнаруе цябе. Абыходзіць бокам. Не ўспрымае. І ты змушаны жыць з гэтым. Ты злуешся. Яно і не дзіва. Быць навідавоку для цябе — быць незаўважным. А скрытнасць для такіх, як ты, аматараў назіраць за чужым жыццём, — галоўная ўмова існавання. Толькі хто падкажа табе, што ты і ёсць памылка, тая, якую ты шукаеш вось ужо палову свайго жыцця ў іншых?..

— Я ўсё роўна цябе пацалую!.. Ляля!..

Гэтая юродзівая надакучвае табе кожны дзень. Яна матэрыялізуецца нават там, дзе яе не чакаюць. І табе нічога не застаецца іншага, акрамя як кожны раз выціраца ад яе гэтай бязмэтнай, вар'яцкай усмешкі. Нібыта ад агіднага пляўка. Божа! Якія ў яе вочы! З-за гэтага позірку ты здольны прыняць ад яе любыя абразы. Ты перакананы, што дэманы, якія жывуць у душах вар'ятаў, адкрываюць утоеныя ад людзей ісціны.

— Я ўсё роўна цябе пацалую!.. Ляля!.. — завіхаецца вакол цябе ў рытуальным танцы вар'ятка і цягне да твайго твару парэпаныя брудныя пальцы.

Вакол ніводнай жывой душы. Толькі вузкая стужка асфальту, шчыльна заціснутая з двух бакоў будынкамі, і містычны свет звыклай агіднай сімволікі. Толькі ты і яна — жахліва рэальныя ў гэтым свеце. І ўсё, што павінна адбыцца, абавязкова адбудзецца! Таму змірыся! Прайдзі праз гэта! Уяві сабе, што цябе сапраўднага тут няма... Адчуй сябе таксама вар'ятам! Ну!.. Ну!.. Рабі што-небудзь!..

— Я ўсё роўна цябе пацалую!.. Ляля!..

Ты робіш спакуслівы крок наперад, прыкрываючы далонёй свой брыдкі, знявечаны ў дзяцінстве твар — вынік гісторыі, якую ты наўмысна ўтойваеш ад сябе, — і спыняеш-

ся. Не, ты не здольны прыняць гэтае крыўлянне за ісціну. Не, не зараз, Білі! Не цяпер…

— Не цяпер, Білі! — шэпчаш ты. — Не цяпер!

Рэха вяртае твой голас. І ты чуеш, як ён здрадліва дрыжыць. Ты адрываешся ад думак і здзіўлена глядзіш на вар'ятку. Табе хочацца плюнуць ёй у твар.

— Білі!?

Так… Ты Білі! Ты звыкся з гэтай мянушкай. Яна прыклеілася да цябе назаўжды, неадчэпна. Яна сцерла тваё сапраўднае імя. Ты даўно адгукаешся на яе. Яна таксама адтуль, з той даўніны, з той не забытай табой гісторыі. Яна частка драмы твайго жыцця. Біл!.. Білі!.. Дэбіл… Чаму дэбіл?… Калі-небудзь ты раскажаш свету гнюсную гісторыю свайго жыцця. Калі-небудзь… Але не цяпер.

— Не цяпер, Білі.

Вар'ятка спрабуе злавіць цябе за руку.

— Я хачу цяпер!.. — захліпаецца яна штучным нечалавечым рогатам.

— Пудзіла!.. Ідзі ад мяне!

— Мы-гы…

— Пудзіла! — лямантуеш ты, нібы ашалелы. — Божа! За што мне ўсё гэта! Ці ёсць хоць хто-небудзь у гэтым свеце, хто зразумее мяне?

Вакол застылае ў карціннай нерухомасці наваколле. На твары вар'яткі цень стомленасці. І ўпартасць. Не, час канчаць з гэтым.

— Я ўсё роўна цябе пацалую!.. Ляля!..

— Хопіць!.. Хопіць!..

Далей — цішыня. Яе вочы тлумачаць усё. Словамі не заўжды можна выказаць тое, дзеля чаго яны існуюць. Так, ты і ёсць лялька — аднавокае пудзіла з тварам, спярэшчаным глыбокімі зморшчынамі, з ранамі, якія ніколі не загояцца. «Не ный! Жыццё само за цябе ўсё вырашыць. Ідзі і жыві!..»

Ты ненавідзіш яе. Не, не за вар'яцтва, вядома. Ты ненавідзіш яе за тую векавую рознасць, якая пралягае між ва-



мі, за гэтае нахабнае навязванне сябе Свету, якое яна дэманструе табе кожны раз. Ты перакананы: гэта якраз і ёсць выкрыццё лжывай яго Мудрасці. Час!.. Дзе і як мне ад цябе схавацца? Элі, элі, лама сабахтані?..[1]

Ты растаптаны сваёй нікчэмнасцю. Бо хто хоча стаць мудрацом, той мусіць нарадзіцца вар'ятам. Так склалася гістарычна…

---

[1] Элі, элі, лама сабахтані?.. — лац. «Гасподзь, гасподзь, чаму ты пакінуў мяне?» Па паданнях, апошнія словы Ісуса Хрыста.

# 2

Звечара ля яго акна доўга кружляла галубка. На досвітку ён знайшоў яе напаўжывую на падваконні, у невялічкай драўлянай скрыначцы. Белая, з маленькай чорнай адмецінай на шыі, яна выглядала ў ёй нібыта ў труне. «Чаму тут, чаму сярод гэтай непатрэбшчыны ты знайшла свой апошні прытулак? — шчыра здзівіўся ён і, насуперак здароваму глузду, падумаў: — Верагодна, гэта знак звыш, скупы намёк на ўсю абсурднасць самога жыцця...» Ён адчыніў акно і гідліва кончыкам пальца дакрануўся да яшчэ цёплага камячка. Птушка ўздрыгнула, але вочы не расплюшчыла. Ён надламаў кавалак батона, скарынку паклаў сабе ў рот, а мякіш падсунуў пад птушыную дзюбу. Галубка нават не варухнулася. Тады ён выплюнуў рэшткі недаедзенага на вуліцу і закурыў. Счакаўшы хвіліну, начапіў на нос звыклыя даўно акуляры з зацемненымі шкельцамі і высунуўся з акна. Мітуслівы позірк абмацаў панурае наваколле. Усё гэта ён ужо бачыў, і неаднойчы. Але ўсё роўна кожны раз, чамусьці з зайздроснай настырнасцю, імкнуўся знайсці сярод гэтай будзённай звыкласці нешта новае для сябе, нешта не спазнанае яшчэ. З такой цікаўнасцю людзі, верагодна, прагнуць зазірнуць толькі ў апраметную сваёй будучыні. Вуліца была спавітая шэрай вадзяністай імглой. Ён выразна чуў, як яна бруіцца недзе ўнізе пад ім, зусім побач. Па той бок вуліцы вымалёўваліся невыразныя пакуль яшчэ, расплывістыя абрысы гарадской ратушы. Будынак патанаў у перадранішнім марыве. Але недзе далёка за ім, на даляглядзе, на зямлю ўжо спаўзала некалькі брудных сонечных промняў, падобных



да дзвюх свежых крывавых драпін. Відавочна, нанёс іх на гэтую суцэльную шэрасць нехта не выпадкова. Ва ўсякім разе, яны, як яму падалося, і былі тым апошнім штрышком, той неабходнай дэталлю, без якой гэтая суцэльная сцэнічная Містэрыя падалася б нейкай мазнёй і мела б незавершаны выгляд. Ён заплюшчыў вочы і адразу ж расплюшчыў іх. Слых улавіў да болю знаёмае, ледзь чутнае манатоннае скавытанне. Гукі то нарасталі, то зноў сціхалі. Гэтую дзіўную «мелодыю» ён чуў цяпер шторанку на працягу тыдня ці мо нават двух. Яму здавалася, што гэта гучыць недзе Эолава арфа. Дакладней, яе адгалоскі, яе непаўнавартаснае рэха, аднастайная песня смерці, трыумф бессэнсоўнага над сэнсам усіх сэнсаў. Ён доўга не мог дапетрыць, адкуль зыходзяць гэтыя таемныя гукі. Некалькі разоў нават хадзіў да ратушы і там доўга ўслухоўваўся ў ранішнюю цішыню. Прастата адкрыцця не столькі здзівіла яго, колькі расчаравала. Ветру, каму ж яшчэ падуладны гэты спеў Цішыні. Моц і тэмбр яго цалкам залежылі ад хуткасці, з якой вецер імкнуўся вырвацца на волю праз разбітыя шыбіны ў шпілі вежы. Менавіта тады яму падалося, што гэтая нябачная людскому воку сіла прагне выдраць з неабдымнай ледзяной Моўчы назапашаную вякамі людскую скруху. Вырваць няспелай. Менавіта тады, у тыя хвіліны свайго адкрыцця, зарадзілася таксама і вар'яцкае пытанне: «А ці можа быць музыка болем?..» Гэтая ж думка вярнулася да яго і цяпер. «Безумоўна, можа. Толькі боль, толькі духоўныя і душэўныя пакуты вартыя вяршыць цуды ў гэтым свеце, — пераканаўча разважыў ён. — Нездарма Шастаковіч называў большасць сваіх сімфанічных твораў надмагіллямі...»

Насамрэч музыку гэтага сусветнавядомага Майстра ён не любіў. Чуў яе толькі аднойчы ў сваім жыцці. І гэта была знакамітая сёмая сімфонія. Яна яму зусім не спадабалася. «Мо таму, — заспяшаўся ён апраўдаць свае пачуцці, — што яна і была музыкай болю?» З класікаў ён захапляўся толькі Пяртам. Але тое была зусім іншая музыка. У адрозненне

ад Шастаковіча, музыка Пярта была не столькі музыкай болю, колькі музыкай пакаяння. Яна патрабавала не вонкавага ўспрымання, яна патрабавала саўдзелу. Яна была вынутай з самой Цішыні — прасторы больш дасканалай, чым сама Музыка. Ва ўсякім разе, так сцвярджаў сам аўтар. І ён не мог не пагадзіцца з гэтай высновай.

Ён зняў акуляры і яшчэ раз зірнуў на птушку здаровым вокам. На месцы другога блiснуў пратэз з крыялітавага шкла. Ніякай эстэтыкі — толькі голая практычнасць. Вось чаму ён насіў свае акуляры. За цёмнымі шкельцамі ён хаваў свой дзіцячы грэх. Чорную, агідную павязку на сваім твары ён не ўяўляў.

«Ва ўсёй гэтай маёй недарэчнай пачварнасці, безумоўна, і схаваная несправядлівасць свету! — падумаў ён без ніякай скрухі і шкадавання, праціраючы ражком суконкі запацелыя шкельцы. — Навошта цешыць сябе ілюзіямі? Знаходзяць адзінкі, шчаслівчыкі. Астатнія губляюць, кожны свае. Па кроплі. Кожны дзень...» «Гэта, Білі, цябе пакідае жыццё!» — часта кпіць з яго Буся. Верагодна, ён мае рацыю. Бо адзінае, чаму людства яшчэ не навучылася на працягу сваёй эвалюцыі, — гэта падманваць час.

Ён зірнуў удалячынь, паверх ратушы, потым імкліва перавёў позірк на птушку. Страсянула ад унутранага холаду. Сэрца трывожна сціснулася: «Ну вось і па восені. Хутка снег ляжа на зямлю. Зіме даўно ўжо карціць... Вятры!.. Кожны дзень вятры...» Яшчэ раз дакрануўся да птушкі. Тая не падала ніякіх прыкмет жыцця. Відавочна, пакуты яе толькі што скончыліся, і з гэтым трэба было нешта рабіць. Разлічваць на тое, што птушка сама пакіне абраны ёю прытулак, больш не выпадала. «Свет стварае сябе са сваёй жа смерці... — скупа ўсміхнуўся ён, узгадаўшы гэтую старую, запазычаную ў некага яшчэ ў юнацтве, метафарычную думку. — Без сумнення...» Ён грэбліва варухнуў трухлявую скрыню. Цвікі, якімі яна мацавалася да атынкоўкі, даўно з'ела ржа, і фанера цяпер трымалася на добрым слове. Ён даўно ўжо збіраў-

ся разабраць яе, вывалачы на сметнік, але рукі да гэтага так і не дайшлі. І як вынік цяпер — лішні клопат. Не будзь гэтай скрыні, не было б гэтай смерці. Ён пашукаў вачыма пакет, у які можна было б загарнуць здохлую птушку, аднак нічога прыдатнага не трапіла яму на вочы. «Вось яна, навідавоку, наша лжывая ілюзія выбару: вы гэтага не павінны рабіць, але рабіць вам тое давядзецца... А што калі выкінуць яе разам з гэтай скрыняй? — падумаў ён раптам. І нават паспрабаваў ададраць дошкі ад атынкоўкі. Верагодна, гэта ў яго б атрымалася, калі б не тэлефонны званок. Ён зачыніў акно і нетаропка накіраваўся ў вітальню. На паўдарозе перадумаў, вярнуўся і адчыніў акно.

— Білі!.. Алё!.. Білі!.. — данеслася да яго са слухаўкі. Гэта быў Буся. Хто яшчэ мог тэлефанаваць яму ў такую рань? Размаўляць з ім не было жадання, і ён пашкадаваў сто разоў, што падышоў да тэлефона.

— Білі, па-мойму, мы дамаўляліся сустрэцца... Забыў?

— І што з таго?! — буркнуў ён незадаволена. Штучна пазяхнуў, намякаючы на тое, што яго дарма разбудзілі.

— Нічога, проста хацелася ўдакладніць: дзе, калі і ў колькі, — заспяшаўся Буся. — І яшчэ... Ой, Білі, ты сядзіш? Ну, тады трымайся... Не паверыш, Віка аб'явілася. Што-о-о?.. Ты не памятаеш Віку? Білі, ну ты даеш! Не выдурняйся! Наша аднакурсніца. З Марынкай за адным сталом сядзелі. Ды памятаеш ты яе... Скуль вярнулася? З Ізраіля, вядома, скуль жа яшчэ. Зямля запаветная ёй больш не даспадобы... Ха-ха-ха!.. Радзіма яе паклікала, Білі, радзіма. Ну што, патусуемся разам? Палялякаем, піўком пацешым сябе. Білі, Віка такой фіфай зрабілася, абалдзець!.. Памятаеш, якой чуняй яна раней была?..

«Не трэба ля-ля... Для цябе, скажам, яна ніколі чуняй не была», — падумаў ён, узгадаўшы, як некалі Буся заляцаўся да дзяўчыны. Хаця да каго ён толькі не заляцаўся, гэты Буся. І да Марыны, і да Вікі. Вось толькі поспеху не меў ніколі...

Паўза зацягвалася.

— Ну што, ты згодны? — намагаў Буся.

— Не, я не магу, — схлусіў ён, скоса зірнуў на прыадчыненыя на кухню дзверы і пажартаваў: — Мне сёння яшчэ на пахаванне ісці.

— На пахаванне? — здзіўлена войкнуў Буся. — А хто памёр, Білі?..

— Мой анёл... — выціснуў ён праз вусны.

— Не дуры, Білі! — ажывіўся Буся. — Які яшчэ анёл?..

— Мой анёл. Анёл-абаронца.... Цяпер я, Буся, сам-насам з гэтым светам.

— А-а-а! Разумею, — зарагатаў той. — Ты, як заўжды, на сваёй хвалі. Ладна, Білі, ладна... Пахаванне адмяняецца.

— Не, Буся, не адмяняецца... Прабач, але патэлефаную пазней, калі вызвалюся.

— Білі!..

— Не магу, Буся, не магу. Бывай! — сказаў ён і хуценька паклаў слухаўку. Некалькі хвілін пастаяў у роздуме, потым накіраваўся на кухню. Пакой за той час, пакуль ён размаўляў па тэлефоне, праветрыўся. Ва ўсякім разе спецыфічных пахаў смерці ў ім ужо не адчувалася. Туман за акном напалову рассеяўся, агаліўшы рэбры-лічбы на цыферблаце гарадскога гадзінніка. Стрэлкі набліжаліся да васьмі гадзін раніцы. Наперадзе яго чакаў новы дзень і часу, каб сапсаваць сабе настрой дарэшты, было больш чым дастаткова. «Ну, і кім ты сябе ўявіў тут, унізе?..» — падумалася яму чамусьці. Не знайшоўшы адказу на сваё дзіўнае, недарэчнае пытанне, ён дастаў з шуфляды дзіравы шматок поліэтылену — першае, што трапіла на вочы, — і старанна загарнуў у яго яшчэ цёплы камячок. Потым без асаблівых намаганняў адарваў ад цагляных перамычак скрыню і паклаў туды скрутак. Атрымалася прыстойная дамавіна. Яшчэ праз хвіліну ён накінуў на плечы куртку і рушыў у паўзмрок лесвічнай пляцоўкі. Электрычнасць, як заўжды, выключылі, і спускацца ўніз давялося ў цемры, навобмацак. На лесвічную пляцоўку з цяжкасцю прабівалася праз невялічкія незашклёныя акен-

цы перадранішняя смуга. Бачнасці яна не дадавала, і, каб не зачапіцца за што-небудзь нагой на сваім шляху, яму даводзілася ўвесь час трымацца рукой за сцяну. Другая рука была занятая скрыняй. Паўзмрок быў яму дарэчы. Вялікага жадання быць заспетым за такім заняткам суседзямі ён не меў. Выходзячы з кватэры, ён пачуў, як недзе ўнізе здрадліва рыпнулі дзверы, потым слых улавіў нечыя неразборлівыя галасы, жаночы і дзіцячы. Ён паскорыў хаду. На трэцім паверсе яго перастрэў хлапчына гадоў дзесяці-дванаццаці. Відавочна, незнарок. Але яму, як заўжды, так не падалося. Гэтыя малакасосы ліплі да яго, як слата нейкая на мёд. Ім абы толькі паздзекавацца, ведаў ён.

— Артур, саступі дарогу, — загадала хлопцу жанчына. Голас прагучаў аднекуль з глыбіні пакоя. Самой жанчыны ён так і не ўбачыў. У адказ падлетак нават брывом не павёў.

— Артур, я каму сказала!.. — узмацніла голас жанчына. Хлопец незадаволена праімітаваў нейкія недакладныя рухі, паказаўшы пры гэтым яму язык. Нават у прыцемку ён адчуў выказаную ў свой бок агіду. «Скуль яна ў цябе?.. — абурыўся ён, але прамаўчаў. — За што ты мяне ненавідзіш, шчанюк?» Насамрэч невядома, хто каго больш ненавідзеў у гэты момант. Ён не любіў дзяцей. І не столькі саміх дзяцей, колькі іх наіўную дзіцячую шчырасць. Дзеці дражнілі яго. Паказвалі язык, круцілі пальцам ля скроні. Як толькі маглі і ўмелі, імкнуліся агаліць ягоную нікчэмнасць і непаўнавартаснасць. У адрозненне ад дарослых, дзеці не насілі на тварах масак, і ён не ведаў, што насамрэч лепш. Калі дарослыя рабілі хоць нейкі выгляд спагады, то гэтыя байструкі, наадварот, былі да агіднасці шчырымі ў сваіх пачуццях. Яму здавалася, што яны наўмысна выкрываюць у ім нават не столькі знешнія хібы, колькі ўнутраныя, каб не быць такімі самім. Верагодна, гэта была іх адзіная зброя ў барацьбе з хлуснёй, той, якая ўласцівая толькі дарослым. З узростам шчырасць трацíцца. Жыццё дастаткова б'е нас, каб мы называлі рэчы сваімі імёнамі.

«Гэты не саступіць, — пераканаўся ён і адштурхнуў ад сябе хлапчыну сам.

— Пайшоў прэч, смаркач! — прашыпеў ён ледзь чутна.

Падлетак ухіліўся і зноў паказаў яму язык.

— Артур, што ты сабе дазваляеш? — жорстка спыніла яго жанчына.

Слухаць іх не было часу і жадання. Абмінаючы падлетка, ён выпадкова зачапіўся нагой за каменны выступ, спатыкнуўся і ледзь не расцягнуўся на сходнях.

— Сволач! — вылаяўся ён цяпер ужо ўголас і кінуўся ўніз подбегам. Сцішыў хаду толькі на выхадзе. — Сволач! — паўтарыў ён і накіраваўся ў глыб двара. Там, па яго меркаванні, і павінен быў быць сметнік.

«А сам ты, сам ты якім быў у такім узросце? Раскажы сабе пра сябе. Раскажы. Толькі шчыра. Які сэнс хлусіць самому сабе? Быць і імкнуцца быць — розныя рэчы. Ці не так? Надзеі і спадзяванні рэдка калі супадаюць з сапраўднасцю. І рана ці позна табе давядзецца расказаць сваю гісторыю. З чаго ты пачнеш свой аповед? З тых далёкіх дзевяностых, калі ўсё ў краіне, у якой ты нарадзіўся, перакулілася з ног на галаву?.. Так… Кожны дзень мама выпраўляла цябе ў школу з абразком, з не вартай увагі, як ты лічыў, квадратнай кардонкай з выявай Божай Маці. Яно і не дзіўна: пасля працяглага атэістычнага жыцця ў краіну вярталася мода на Бога. Ты не разумеў мамінай настырнасці, з якой яна спрабавала ўціснуць табе ў рукі гэтую непрывабную выяву цёткі з малым дзіцем, і не пераставаў здзіўляцца: «Якая яна святая? Цётка як цётка!..» Галоўным для цябе было як мага хутчэй выслізнуць за дзверы, а там — воля вольная… І так шторанку. Ты нёсся, нібы ашалелы, уніз па лесвіцы і на небяспечнай ад дома адлегласці азіраўся. Калі квяцістыя фіранкі на акне кухні хавалі і без таго невыразна акрэсленыя абрысы мамінага аблічча, ты клаў абразок у кішэню ці запіхваў яго ў ранец. «Убачаць — засмяюць!» — вось што турбавала цябе па-сапраўднаму. Гэта нашмат пазней ты будзеш лавіць сябе на жахлівай

думцы, што, верагодна, гэтае тваё дзіцячае блюзнерства і ёсць сапраўдная прычына твайго духоўнага падзення. Бо чым іншым можна патлумачыць яшчэ тое вялікае расчараванне, якое напаткае цябе неўзабаве? Але пачуцце віны, імкненне вінаваціць сябе ў любым праступку, нават ніколі не здзейсненым табой, прыйдзе нашмат пазней. Верагодна, трагедыя нашага жыцця ў тым, што яно, прапаноўваючы безліч сваіх варыянтаў, насамрэч пазбаўляе нас любога выбару…

Але на пачатку было слова. І тое слова было Моніка… Моніка Велюр…

# 3

Хочаш жыць — ідзі і жыві!.. Будзь як усе! Будзь лепшай за ўсіх! Нарадзіся вар'яткай. Катайся ў інвалідным вазку па гэтых вуліцах. Насычай свае лёгкія забруджаным, атрутным паветрам. Зневажай іншых. Зневажайся сама. Прасі міласціну. Ашуквайся. Ашуквай — ашуканства прыносіць асалоду! Рабі выгляд, што ўсё, што адбываецца вакол, задавальняе цябе. Галоўнае, не забывай: ты нарадзілася ў краіне цынікаў. Ты жывеш сярод гістарычных ілгуноў. А таму нікому не вер і глядзі на жыццё з усмешкай. Людзі, якія не здольныя палюбіць сябе, ніколі не палюбяць цябе. Таму разлічвай на сябе і толькі. І не спяшайся дзяліцца думкамі з першым стрэчным. Што б ты ні агучыла, тваю шчырасць выкарыстаюць супраць цябе. Зло, яно больш прывабнае, чым дабрыня. А твая гісторыя ад яе пачатку і да канца ганебная. Для большасці ты — персанаж дзіцячых коміксаў, атавістычная істота. Таму не чакай ад людзей ні спагады, ні ласкі!.. Твой бацька адмовіўся ад цябе, калі ты была яшчэ ў чэраве мацеры. Ён быў з ліку тых самых, адукаваных і тонка выхаваных, істот, каму мець пазашлюбных дзяцей амаральна. І таму твая гісторыя пачынаецца менавіта з гэтай, не вартай увагі, дэталі. Сцісні вусны і цярпі. Твая справа — несці крыж іншых. За іншых. Твая справа — ісці, каб не дайсці. Дойдуць іншыя. І ў гэтым твая радасць. Але ты не адна такая, такіх, як ты, безліч у гэтым свеце. І ў кожнага з вас свая гісторыя. Таму — ідзі і жыві…

Адназначна, для мяне колеры жыцця жоўтыя. У гэтым я пераконвалася неаднойчы. Аб гэтым я думаю пастаянна, нават цяпер, узіраючыся ў неаглядную мёртвую цішыню.

Святло ў акне ў доме насупраць — адзіная крыніца жыцця ў гэтым нямым згустку начной прасторы. І ўсё, што мне засталося, гэта назіраць за іншымі. Апошнімі днямі я амаль не сплю. Думаю, думаю. Пра маму, пра Цябе. Толькі навошта мне ўсё гэта? Навошта мне гэты жоўты нямы квадрат з залатымі фіранкамі, да краёў запоўнены чужым шчасцем? Спачатку яны пазбавілі мяне зносін з іншымі, цяпер прагнуць пазбавіць прасторы. І я, нібы той матылёк Каліма, што імкнецца прыпадобніцца сухому лістку, змушана ўпотай ад вас прыпадабняцца гэтаму жоўтаму колеру, колеру чужога жыцця.

Частыя пераезды з горада ў горад — гэта маміны хітрыкі. Так бы мовіць, спробы хаваць мяне ад людзей, ад сваіх знаёмых. А самой — хавацца ад нязручных і крыўдных пытанняў. Таму гэтыя бясконцыя ваяжы для мяне ёсць не што іншае, як уцёкі ад саміх сябе. Верагодна, некалі гэтая наша мара збудзецца. Інакш навошта ўся гэтая мітусня? Мама, па ўсім відаць, думае гэтак жа, як і я, толькі ніколі не выказвае свае думкі ўслых. Яна пастаянна плача і трызніць. Ад яе трызнення мне іншы раз робіцца не па сабе. Я здагадваюся, што я для яе і ёсць тая прычына яе няшчасцяў, пра якія яна ўвесь час узгадвае, і мне не даспадобы такі яе настрой. Мне б хацелася прыносіць ёй радасць. Я не аднойчы ўжо спрабавала пагаварыць з ёй пра гэта, але варта мне было толькі распачаць гаворку, як я забывала назапашаныя для гэтага словы. Мамін позірк крадзе іх у мяне пастаянна. Яе вочы бянтэжаць мяне. Яе позірк збівае з панталыку. А яшчэ не менш бянтэжаць мяне яе слёзы. Дакладней, іх беспадстаўнасць. Мне здаецца, што мама плача, абы толькі паплакаць. Мне ж даспадобы слёзы радасці. Таму іншы раз мне таксама хочацца паплакаць. Разам з ёю. Каб быць падобнай да яе. Я прытвараюся і плачу, як і яна, без прычыны. Я імітую свой смутак. Аднойчы мне пашчасціла пакаштаваць яе слёзы. Калі я цалавала яе. Яны былі прытарна горкімі. Няўжо і мае слёзы радасці такія ж салёныя?..

Але да ўсяго, у тым ліку і да жыцця, можна прызвычаіцца. І магчымасць пераканацца ў гэтым мне выпадала неаднойчы. Толькі ў гэтым вялікім горадзе, куды мы прыехалі з мамай нядаўна, усё па-іншаму. Менавіта тут упершыню ў жыцці я адчула сябе дарослай. А яшчэ я адчула ўнутры сябе тваё жыццё. Не здзіўляйся, я запоўненая Табой і не ведаю, што мне з гэтым рабіць. Маё існаванне набыло іншы сэнс. Цяпер мне нават цяжка ўявіць, што станецца са мной і з табой, калі мама ў чарговы раз надумае з'ехаць адсюль. Не, з ёю я больш нікуды не паеду. І калі я пачынаю думаць пра гэта, мяне апаноўвае смутак. Магчыма, гэта толькі ілюзія той тугі, пра якую я мару. Але ў гэтым і ёсць цяпер сэнс майго існавання. Мне часта здаецца, што Ты і ёсць маё жыццё. Бо хто яшчэ, калі не Ты? Ты і ёсць той адзіны, дзеля каго я прыйшла ў гэты свет. Дзеля каго я буду існаваць, каб не дайсці. Ты, і толькі ты, — Тое, што любяць, што застанецца пасля нас!..

Пра тваё існаванне ў маім жыцці мама пакуль не здагадваецца. Менавіта ёй пра Цябе я і не раскажу нічога ніколі. Асабліва пасля ўчарашняга жудаснага выпадку. Дадумацца, мама спрабавала спаліць маю новую ляльку. Пасля гэтага я ёй не веру. Скуль у яе столькі агіды і злосці да мяне? Не, рызыкаваць тваім жыццём я не маю ніякіх падстаў... Я ўважліва назірала за ёй, гэта была не мама. Мама так ніколі б не зрабіла. Спачатку яна адарвала ляльцы нагу, потым другую... Потым яна паўтарыла тое ж самае з рукамі. А потым... Потым яна кінула рэшткі ў духоўку. І тады я кінулася прэч, на вуліцу. Не, я не плакала. Я смяялася. Мама крычала мне нешта ўслед, але я не слухала яе. Я смяялася. Смех забіваў ува мне ўсе астатнія пачуцці. Я бегла і смяялася... Я рагатала...

# 4

Калі ён спрабуе вяртацца ў мінулае і пачынае год за годам гартаць зачытаную кнігу свайго жыцця, кожны раз памяць нагадвае яму пра той далёкі восеньскі дзень — пятніцу 13 верасня. Яму адразу ж узгадваюцца разбітае трумо ў вітальні, срэбная мешаніна аскепкаў на падлозе і слёзы… Шмат слёз. Маміных і яго. Уперамешку. Усё астатняе, усё вонкавае — гэта пакуль што яшчэ толькі неаглядная прастора для падзелу дзвюх стыхій, тая самая ледзяная сусветная Моўча, якая праз пэўны час народзіць міфічных Эрэба і Нікту. Але пакуль яшчэ заўтрашні дзень — загадка для ўсіх. Ніхто яшчэ не падазрае нават, што ўсяго праз нейкія тры месяцы перастане існаваць магутная імперыя, і што крывавыя падзеі ў Малдове, Літве і Латвіі, а таксама жнівеньскі путч і забарона дзейнасці камуністычнай партыі толькі паспрыяюць гэтаму неаспрэчнаму гістарычнаму факту. Але ўражваць яго заўжды будзе не столькі сама гэтая гістарычная падзея, колькі тая ўсеагульная абыякавасць, з якой паставіцца да яе маўклівая большасць. Распад Вялікай Дзяржавы не выкліча ў большасці ні расчаравання, ні настальгіі, ні, тым больш, нейкага шкадавання.

Пасля таго як мама супакоіцца, ён прыбярэцца ў пакоі і вывалача рэшткі разбітай мэблі на сметнік. Аднак некалькі невялічкіх люстраных аскепкаў ад разбітага трумо ён усё ж пакіне сабе на памяць. Яны застануцца яму не толькі як напамін пра той лёсавырашальны для яго дзень, але і як своеасаблівы залаты ключык ад дзвярэй да яго мінулага. «Калі доўга і бязмэтна ўзірацца ў люстраную бездань, — будзе

ўзгадваць ён кожны раз маміну прыказку, — яна можа скрасці вашу душу». Але маміна страшылка не здолее перамагчы ў ім спакусу глядзецца падоўгу ў нямую люстраную зманлівасць. Ён будзе рабіць тое зноў і зноў, каб знайсці ў ёй сябе сапраўднага. Пяць люстраных аскепкаў. Пяць розных выяў. І ні ў адным аніякага падабенства да сябе колішняга. Наўрад ці калі-небудзь здолее ён скласці з назаўжды страчанага нешта суцэльнае і прыдуманае. «БОЖА! Што людзі робяць з людзьмі?!» — будзе, як мантру, паўтараць ён неаднойчы гэтую няхітрую ісціну, разглядаючы ў люстэрку свой знявечаны твар. Спакуса — пачуццё надакучлівае, яна нібы тыя маміны парады. Але ён і раней не надта да іх прыслухоўваўся, а з таго дня і ўвогуле яны для яго стануць непрымальнымі. Яго жыццёвыя погляды набудуць не толькі новую афарбоўку, але і зусім іншы сэнс. Буся і той не пазнае яго і будзе доўга яшчэ здзіўляцца ягонай раптоўна набытай непрадказальнасці.

— Ты, Білі, нібы тая зязюлька з бабінага гадзінніка, высунешся са сваёй норкі, вякнеш — і назад у норку.

Буся рэдка калі памыляўся. Жыць у ценю іншых стане для яго цяпер неабходнасцю. Бо цені, будзе пераконваць ён сябе, звужаюць свет.

— Асцерагайся людзей, сынок!

З гэтай старой, як сам Свет, парады і пачнецца ў той дзень мамін выхаваўчы маналог. Ён у чарговы раз маўкліва выслухае яе, але ўсё, што стане гаварыць яму мама, будзе тычыцца не яго, а яе самой, і тое, што яна ў соты раз паўторыць, — паўторыць з адной толькі мэтай: любымі сродкамі апраўдаць памылкі сваёй шумлівай маладосці. «Смешная яна нейкая!» — падумае ён у сто першы раз. Людзі на чужых памылках не вучацца. Ён і то ведае гэта. Для яе бацькоў, людзей адукаваных і інтэлігентных, яе пазашлюбная цяжарнасць стане сапраўднай трагедыяй.

— А як жа інстытут? — заікаючыся, спытае ў яе мама, устрывожаная нечаканай навіной. — Ты збіраешся кінуць інсты-

тут?.. На апошнім курсе?.. А пра бацьку ты падумала? Яго ж з-за цябе з партыі папруць...

— А пры чым тут бацька?

— Як гэта пры чым? Яго ж з партыі вытураць.

— Жанчынам не адукацыя, жанчынам шчасце патрэбна, — цынічна выпаліць яна ў запале першае, што прыйдзе ёй у галаву... Відавочна, сапраўды, іншы раз мае сэнс сказаць людзям тое, што ты думаеш. Гэта цверазіць і цябе, і іх.

Амбіцыі прымусяць яе адмовіцца ад свайго бестурботнага і насычанага рознымі забаўкамі сталічнага жыцця і памяняць яго на сумнае і аднастайнае правінцыйнае. Бацькі адмовяцца ад яе. Але іншага выйсця з той сітуацыі, што складзецца, яна так і не знойдзе, а калі шчыра, то і шукаць не стане. З цягам часу яна пераедзе ў невялічкі раённы гарадок, дзе жыў на той час яе родны брат, здзівіўшы яго і сваёй цяжарнасцю, і сваімі праблемамі. Сустрэне той яе стрымана, без асаблівай радасці, але на невялічкі пакойчык у сваёй чатырохпакаёўцы не паскупіцца. У ім працяглы час яны і будуць жыць. Але перакананне, што жыццё яшчэ не скончана, што ў ім яшчэ можна нешта памяняць, не пакіне яе ніколі. Праз чатыры гады, дзясятага лістапада, у адзін дзень з Брэжневым, памрэ ад інфаркту яе бацька і яго дзед. Ён так і не здолее дараваць дачцэ яе распусту. Верагодна, яго непрымірымасць і затоеная крыўда і стануць галоўнай прычынай заўчаснай смерці. Яшчэ праз год памрэ яе маці. І толькі тады, пасля ўсіх гэтых цяжкіх страт, яны вернуцца назад у сталіцу. Бацькоўскую кватэру ў цэнтры горада мама прадасць, а на атрыманыя ад продажу грошы набудзе новую, у прыгарадзе. Ні з дзядулем, ні з бабуляй ён так ніводнага разу і не сустрэнецца. Пра іх існаванне ён даведаецца ад маці, і то ўзгадае яна іх толькі аднойчы. Размовы на гэтую далікатную тэму стануць непажаданымі ў іх доме, і яму нічога не застанецца, акрамя як мірыцца з гэтым...

Мамін плач адарве яго ад успамінаў.

— Гляньце, ён не слухае нават! Што, дарослым стаў? А пацалаваць маму? Што, саромеешся?.. Эх ты!..

— З чаго ты ўзяла? — сарамліва спытае ён. І тады яна кінецца да яго ў абдымкі.

— Сынок, любы мой! Кравіначка ты мая! Надзея мая! Ты лепшы з найлепшых!

Яна абдыме яго і моцна прыцісне да грудзей. Потым скіруе позірк туды, дзе нядаўна стаяла трумо, і сумна ўсміхнецца:

— Перажывём і гэтую нязручнасць... Ты ж не наўмысна, скажы, не наўмысна?..

Што станецца далей, ён ведаў ужо загадзя. Спачатку будуць словы. Шмат слоў. Потым слёзы. Мама заплача, аднак на гэты раз неяк ціха і няшчыра. Але гэта яму, верагодна, толькі падасца. Звышуражлівасць і звышэмацыйнасць, як вядома, часта ўводзяць людзей у зман. І ўсё ж, каб адцягнуць маміну ўвагу ад балючай ёй тэмы, ён паспрабуе скіраваць гаворку ў іншы бок. І сапсуе ёй настрой цалкам.

— А падарунак? Падарунак ты мне купіла? — спытае ён бесцырымонна, намякаючы на свой дзень народзін. У той дзень яму споўніцца трынаццаць.

— Сяргей!

— Што «Сяргей»?

— Хіба так можна?..

— Як так?

— Няўжо цябе задаволіла б нейкая цацка?

— Ну, пачалося!.. — нахабна спыніць ён яе. — Заладзіла!

— Нічога я не заладзіла. Проста людзі, сынок... — яна на хвілінку задумаецца і дадасць пасля кароткай паўзы: — Людзі — яны як людзі. Жывуць і не хочуць ведаць, што побач з імі жывуць іншыя людзі. Не такія, як яны. Людзям, сынок, пра сябе нагадваць трэба.

— Пры чым тут людзі, мама?

Яго позірк так і застанецца прыкаваным да невялічкага скрутка на маміным прыполе.

— Ты пакажаш падарунак ці не?

— Ладна, угаварыў, — усміхнецца яна паблажліва і падасць перавязаны сіняй стужкай пакунак. — Думаеш, лёгка мне было набыць гэта?.. Куды ні кінься — чэргі. Вэрхал, анархія... Гэты Гарбаты нас хутка да жабрацтва давядзе. Здохнем усе ад голаду.

— Што тут? — не зважаючы, пацікавіцца ён.

— Бінокль, — усміхнецца яна лагодна.

— Бінокль? — здзіўлена перапытае ён. — Навошта ён мне?

— Як?.. Хіба не ты яго ў мяне клянчыў? — ледзь стрымліваючы слёзы, спытае мама. І ён адчуе, як здрадліва ўздрыгне ад крыўды яе голас.

— Я клянчыў? Што, я клянчыў? — зрываючыся на крык, спытаецца ён. — Я прасіў у цябе фотаапарат.... Разумееш, фотаапарат, а не бінокль!

Фотаапарат яму купіць дзядзька. У той жа дзень. Мама слёзна папросіць яго аб гэтым, а ён падслухае іх размову па тэлефоне. Але ні фотаапарат, ні бінокль не затрымаюцца ў яго доўга. Бінокль стырацць праз некалькі тыдняў у бальніцы, куды ён пападзе з траўмай вока, а ўзамен на фотаапарат ён выменяе ў Бусі акуляры з цёмнымі шкельцамі. Тыя, якія носіць цяпер.

— Усё!.. Досыць пустых размоў, — абыякава махне рукой мама. Вытра рукавом вочы і загадае: — Вынесі смецце і збегай у краму. Вечарам прыйдуць госці, чым частаваць будзеш?..

— Я?

— А хто па-твойму, я? Чый дзень нараджэння?..

Вось так і пачнецца той лёсавырашальны для яго дзень. Дзень, у які Бог некалі стварыў Еву, якая ў сваю чаргу народзіць яго... А задаволены працай, Бог будзе ўпотай радавацца жыццю на нябёсах... А ён...

А ён праз некалькі хвілін перасячэ дворык. Ледзь не саб'е ля суседняга пад'езда з ног маладую кабету з дзіцем — квадратную і ружовашчокую, падобную, як дзве кроплі вады, да Пышкі, жанчыны з карціны, якая ўжо доўгі час вісіць над маміным ложкам. Азірнецца.

— Не еш з Яго рук! — нечакана пачуе ён. Словы будуць адрасаваны малому хлапчуку, а яму падасца, што жанчына звяртаецца да яго. — Чуеш, прашу Цябе, не еш з Яго рук!

«З чыіх рук?» — захоча спытаць ён у жанчыны, але так і не адважыцца. «Як лёгка цябе збіць з панталыку, сынок!..» — спыніць яго здзеклівы мамін голас.

— Ева, у цябе дарослы сын! — лагодна ўсміхнецца яму дзядзька, мамін брат, і памкнецца дакрануцца да яго чупрыны.

— Ева, як хутка растуць чужыя дзеці! — замітусіцца вакол яго маміна сяброўка і галасна засмяецца. Яму ж падасца, што зробіць яна тое наўмысна, каб агаліць перад прысутнымі свае рэдкія, гнілыя зубы. Ён нават адчуе непрыемны пах з яе рота. Але ўсе гэтыя «охі» і «ахі» яму давядзецца выслухоўваць нашмат пазней, вечарам. Госці, якія прыйдуць павіншаваць яго з днём нараджэння, заваляць пакой падарункамі і праз гадзіну забудуць пра яго. Яны стануць абмяркоўваць што заўгодна: Белы дом, путч, Растраповіча з аўтаматам у руках, Руцкога, але толькі не яго. Ён жа зачыніцца ў мамінай спальні і, пакуль дарослыя ў зале будуць піць за яго здароўе гарэлку, правядзе рэшткі вечара ў эратычных фантазіях з Монікай Велюр. Часопіс з аголенай порна-зоркай ён вывудзіць са скрыні са смеццем, старанна ачысціць яго ад бруду і схавае за пазуху. А назаўтра здымкамі будуць захапляцца амаль усе вучні ягонага класа, а дыягназ, які вынесе прыгожай жанчыне аўтарытэтны ў такіх пытаннях Буся, стане сапраўдным шокам.

— Гаўно! — выцадзіць коратка праз зубы Буся. — Хочаш, я пакажу табе такое!.. Ахнеш!

«Сабярыся і заедзь яму ў пашчу! — падумае ён упершыню, ледзь стрымліваючы сябе. — Чуеш, заедзь яму ў пашчу!» Але жаданне так і застанецца жаданнем. Хіба здольны ён быў тады на такі дзёрзкі ўчынак?..

— Чуча! — абразліва ўсміхнецца Буся і паспрабуе схаваць часопіс у сваю сумку.

— Аддай! — кінецца да яго з кулакамі ён.

— Настаўніца! Настаўніца! — закрычаць з усіх бакоў вучні, папярэджваючы іх. Але будзе ўжо позна. Класная адбярэ ў Бусі часопіс і адвядзе іх абодвух у кабінет да дырэктаркі. Тая бесцырымонна абшарыць кішэні і знойдзе ў Бусі пачак з цыгарэтамі. Калі пачне адкрываць яго, на падлогу выпадзе прэзерватыў. Яна ахне ад здзіўлення, распакуе яго. Потым дэманстратыўна начэпіць на кончык указкі.

— Што гэта? — заікаючыся, спытае яна.

— Шарык, — нахабна ўсміхнецца Буся.

Але ўсё гэта будзе заўтра...

# 5

Шукаць для сябе забаўкі — занятак не з лёгкіх, асабліва калі ты дзяўчынка і калі з цацак у цябе толькі лялька, і тая з адарванымі нагамі. Пра лялек я магла б вам расказваць і расказваць. І пра самаробных лялек-фей, і пра кітайскіх фарфоравых. Чамусьці больш мне запомніліся з дзяцінства апошнія, з шэрымі аднолькавымі тварамі. Жудаснае відовішча, шчыра прызнаюся вам. Асабліва калі доўга глядзець ім у вочы. У прыцемку іх нібыта знарок нехта падмяняе, яны ажываюць, напаўняючы пакой нейкім містычным, казачным сэнсам. Не разумею цяпер, чаму я любіла падоўгу ўзірацца ў іх маўклівыя васковыя твары. Мо таму, што яны мне заўжды ўсміхаліся? Але я баялася гэтай іх усмешкі. Я плакала і не магла потым доўга заснуць. Я заплюшчвала вочы і ўсё яшчэ бачыла, як лялькі рухаюцца па пакоі. Рухаюцца і ўсміхаюцца, загадкава і пачварна. Я пачынала зваць маму, і той не заставалася нічога іншага, акрамя як прыбіраць іх на нейкі час у шафу. Ранкам, калі я прачыналася, яны, як ні ў чым не бывала, стаялі на сваіх месцах. Я абыходзіла іх бокам. І яны суправаджалі мяне сваімі здзіўленымі шклянымі позіркамі. Я не ведала тады яшчэ, што гульня ў лялькі — таксама мастацтва, што лялькі і людзі маюць шмат чаго агульнага. Ва ўсякім разе, адны і другія мелі талент здзіўляць нас. І ўсё ж маёй любімай гульнёй была гульня ў дзень і ноч. Простая і наіўная. Як і ўсё, у прынцыпе, у гэтым жыцці. Я зачынялася ў шафе на нявызначаны час, употай ад мамы, і, седзячы там сярод маміных убораў, услухоўвалася ў цішыню. Апраметная цемра надавала рэчам таемнасць і загадкавасць. І тады я пачынала ча-

ста і перарывіста дыхаць. Я імкнулася такім чынам напаўняць цішыню рухамі. Я ўдыхала на поўныя грудзі паветра, насычанае пахамі парфумы, а потым выдыхала яго. Калі вочы цалкам прызвычайваліся да цемры, калі яна праставала быць жахлівай і загадкавай, якой напачатку здавалася, я пачынала бачыць святло. Яно сачылася звонку, праз усе шчыліны. Мне здавалася, што яго я не толькі бачу, але і чую. Чую ягонае асцярожнае, ледзь улоўнае шамаценне. Святло наліпала на тканіну, і да яго можна было дакрануцца кончыкам пальца. Мяне перапаўняла нейкая не вядомая мне дасюль радасць. Верагодна, гэта было нешта большае, чым звычайная радасць. Я лавіла сябе на думцы, што зазіраю за межы нечага недазволенага, за межы нябачнага для іншых. «А можа, гэта і ёсць тое месца, скуль прыйшла я сюды, у гэты свет?» — думала я ў такія хвіліны, трацячы адчуванне часу. І тады, на мяжы свядомасці і сну, узнікала нешта іншае, нешта містычнае, якое цяжка было назваць святлом. Мне здавалася, што маё жыццё плаўна перацякае з адной бясконцасці ў іншую. Гэта былі своеасаблівыя падарожжы з нашага свету туды, дзе не існуе адлегласці.

З цягам часу гульні ў дзень і ноч сталі для мяне звычкай, неабходнасцю. Без іх я ўжо не ўяўляла сваё далейшае жыццё. І вось аднойчы са мной здарылася нешта непрадказальнае. Гульня зацягнулася, і я страціла кантроль над сапраўднасцю. Я заснула, не памятаючы, калі тое са мной здарылася, зачараваная сваімі незямнымі відзежамі. Колькі часу я праспала, не памятаю. Але калі расплюшчыла вочы і прыадчыніла дзверцы, каб выбрацца з шафы, то мой позірк наткнуўся адразу ж на сапраўдную цемру, больш рэальную і халодную, не такую, якая панавала ў шафе. Тое была не цемра, а сапраўдная ноч. І я не ведала, што мне рабіць з гэтым. Уразіў мяне не столькі змрок, колькі маміна абыякавасць. Мая працяглая адсутнасць засталася нікім не заўважанай. Пра мяне забылі. Усе. Нават мама. Мяне быццам бы ніколі і не існавала ў гэтым свеце. Я адчула сябе адзінотнай

і непатрэбнай, мне стала страшна. Ад адчаю я нават закрычала. Але мяне не пачулі. Я падумала, што гэтага мала, і, каб нагадаць пра сябе, пачала тупацець нагамі, чым і разбудзіла маму. Яна вызірнула са спальні і запаліла святло. Яе твар быў незадаволены і халодна мармуровы. Гэта здзівіла мяне яшчэ больш. Мы стаялі ў эпіцэнтры неабсяжнай Пустаты і глядзелі адна адной у вочы. Мы маўчалі.

— Ідыётка!.. — выціснула нарэшце мама і строга загадала: — Марш спаць!..

Я праігнаравала гэты яе загад і яшчэ мацней упілася вачыма ў яе вочы. Я шукала ў яе позірку сябе... І не знаходзіла... Узіралася і нічога не бачыла ў ім. Потым я перавяла позірк на акно. Мне хацелася зачапіцца хоць за нешта жывое ў гэтым бязлікім згустку нямой прасторы. Вецер церабіў край фіранкі. І па стале паўзлі мітуслівыя шэрыя цені. Я ўздрыгнула ад нечаканай высновы. Я зразумела незразуметае. Выхапленая святлом з цемры, я, як ніколі ў сваім жыцці, адчувала сябе безабароннай. І мне зноў захацелася ў шафу...

# 6

Нечаканае скавытанне клаксана адарвала яго ад успамінаў. Ён азірнуўся і інстынктыўна адскочыў убок. Бус на невялікай хуткасці абмінуў яго і прыпаркаваўся ля суседняга пад'езда, перагарадзіўшы дарогу астатняму транспарту. «Хуткая дапамога», — паспеў прачытаць надпіс ён на бакавой панэлі аўтамабіля. Счакаў хвілінку і накіраваўся няспешна да машыны... Праз некалькі крокаў спыніўся і азірнуўся. Памяць!.. Памяць — бяздонны калодзеж, чэрпай і чэрпай, не вычарпаць. Бывае вось так, нахлыне нешта — і хоць ты плач: навошта табе ўсё гэта? Навошта варушыць тое, што сышло незваротна?.. Навошта? Ды не сышло яно нікуды. Яно з табою заўжды. Яно і ёсць ты... Яно і ёсць тое падарожжа ўглыб сябе, да сваіх вытокаў, да свайго сапраўднага Я...

Буся сваё слова стрымаў. Хаця для яго лепей было б адваротнае. Менавіта з гэтага дня ўсё і пайшло ў ягоным жыцці наперакасяк. Ацэньваючы той учынак, ацэньваючы неразумныя, дзіцячыя паводзіны з пазіцыі пэўнага жыццёвага вопыту, ён не аднойчы будзе лавіць сябе на жахлівай, вар'яцкай думцы, што жыццё насамрэч справядлівае, што немагчыма схавацца ад лёсу, тым больш што ты не шэрая зязюлька з гадзінніка, і жыццё тваё не старэнькія насценныя ходзікі. Але сонечныя промні рассейваюць цені і разбураюць штучную шчыльнасць. Міне час, і ён абзавядзецца новымі сябрамі, нешматлікімі, аднак больш аўтарытэтнымі, на яго думку, чым Буся, і ўсе ж Буся так і застанецца для яго Бусям — сябрам, якім ён яму ніколі не быў. Але пра ўсё гэта па парадку...

У пятніцу пасля заняткаў Буся спыніў яго на калідоры ля прыбіральні.

— Салют, мамчын сынок! — здзекліва павітаўся ён і цынічна пацікавіўся: — Ну, як пажывае твая славутая Моніка Велюр?

— Па-першае, я табе не мамчын сынок, — незадаволена буркнуў ён і паспрабаваў абмінуць хлопца. Але Буся перагарадзіў яму дарогу.

— І хто ты тады? — з'едліва ўсміхнуўся ён. Схапіў за кашулю і ўсім сваім целам прыціснуў да сцяны.

— Ніхто, — пакрыўджана зморшчыўся ён і ціха папрасіў: — Адпусці.

— Ну вось, бачыш, сам прызнаешся: ты — ніхто, — нахабна падсумаваў Буся. — А цяпер пакажы мне свае рукі.

Ён крутануўся, спрабуючы вызваліцца. Аднак Буся яшчэ шчыльней прыціснуў яго да халоднай атынкоўкі. Адступаць не было куды.

— Рукі свае пакажы, Чуча! — дыхнуў ён узбуджана недзе амаль ля вуха.

— Навошта?

— Кажуць, што ў цябе паміж пальцаў растуць валасы. Гэта праўда?

— Няпраўда, — пакрыўджана адтапырыў ён верхнюю губу.

— Ага, як жа! Ва ўсіх растуць, а ў цябе, значыць, не.

— У каго гэта — ва ўсіх?

— У тых, хто займаецца ананізмам, — здзекліва ўдакладніў Буся.

— Я не займаюся ананізмам, — заружавеўся ён і нехаця паглядзеў на свае рукі. Вядома, ніякіх валасоў там і блізка не было, гэта быў чарговы Бусеў выкрут, і ён на яго купіўся.

— Ха!.. А вось і займаешся! — зарагатаў задаволены Буся і, звяртаючыся ўжо да аднакласнікаў, якія цесна абступілі іх з усіх бакоў, крыкнуў: — Увага! Увага! Глядзіце, гэты прыдурак займаецца ананізмам! У яго паміж пальцаў растуць валасы!..

Паветра страсянулася ад моцнага дзіцячага рогату. Ён паспрабаваў вызваліцца з утворанага вучнямі жывога кола, але ў яго нічога не атрымалася. Нехта з натоўпу абразліва выціснуў: «Фу!.. Ананіст!..» Цяпер яго зневажаў увесь клас.

— Ладна, хопіць. Фініта ля камедыя! — спыніў нечакана дзіцячы смех Буся. Абвёў прысутных пагрозлівым позіркам і загадаў: — Псік адсюль! Усе!.. Я каму сказаў!

Зборышча імгненна пачало распаўзацца.

— Ну дык што, едзеш са мной?.. — спытаў Буся, як ні ў чым не бывала. Яго голас цяпер гучаў па-іншаму, не быў такім рэзкім і ваяўнічым, як хвіліну таму, і выклікаў нават нейкі давер.

— Куды? — спытаў ён, не хаваючы сваёй крыўды.

— Блін!.. Чуча! Не будзь ты такой размазнёй!.. — абразліва зморшчыўся Буся. — Глядзі, вусначкі ён надзьмуў, пакрыўдзіўся. Ты што, краля?! Апошні раз паўтараю, цяпер ужо для дэбілаў: едзеш?

Аслухацца Бусю ён не мог, ведаў, чым гэта ўсё скончыцца. Але і ехаць з Бусем таксама яму не хацелася. Ён павагаўся. Паўтараць двойчы Буся не стане. І ён гэта ведаў, як ніхто іншы. Не той Буся чалавек, каб доўга ўгаворваць.

— От жа сцыкло! Здрэйфіў? — не хаваючы свайго абурэння, цынічна сплюнуў праз зубы Буся. — Што ж, не дурань, зразумеў… Бывай здароў, мастурбатар!..

— Я еду… — заспяшаўся ён.

Буся акінуў яго недаверлівым позіркам і прамаўчаў. Але гэтае яго маўчанне было нашмат красамоўнейшым за любыя яго словы. Усё пачынаецца з дробязей. А потым пераходзіць у звычку. Яму захацелася плакаць. Проста. Ад жалю.

Праз некалькі хвілін яны трэсліся ў бітком набітай «шасцёрцы». Куды?.. Ведаў пра гэта хіба толькі адзін Бог. А яшчэ Буся. Апошні і быў для яго ў гэты момант Богам. Бо калі гаварыць пра сяброў, якіх у яго ніколі не было, але якіх ён марыў мець, то лепшага сябра, чым Буся, ён і ўявіць сабе не мог. Менавіта на яго сілу, менавіта на яго нахабства ён і разлічваў. «Чым ярчэй святло, — сцвярджала мама, — тым гусцей

цені!» Гэтую ісціну ён засвоіў на ўсё жыццё. Яму не хацелася быць размазнёй. Ён сніў і бачыў сябе гэтакім жа аўтарытэтным, незалежным і дужым, як Буся. Ён марыў займацца чым уздумаецца, рабіць усё, што ўзбрыдзе ў галаву, не азіраючыся. Але, каб быць такім, неабходна было мець сілу, нахабства і неаспрэчны аўтарытэт сярод аднакласнікаў. Адным словам, тое, чаго ў яго ніколі не было. Для яго ўжо адзін толькі той факт, што Буся паклікаў з сабой, гаварыў шмат аб чым. Яму было пляваць, куды яны едуць. Перад яго вачыма несліся зайздрослівыя позіркі аднакласнікаў, гэтых нікчэмных задавак, якія яшчэ хвіліну таму лезлі да яго з абразамі, і ён адчуваў, як яны яму зайздросцяць. Усё астатняе пакрыху аддалялася, як нешта непатрэбнае і не вартае ўвагі. «Сябраваць абы з кім Буся не стане», — суцяшаў ён сябе, скоса пазіраючы па баках...

Аўтобус завярнуў за рог прадуктовай крамы і выруліў на шырокую прывакзальную плошчу. Павольна прадэфіліраваў уздоўж аднолькавых прывакзальных будынкаў і спыніўся ля газетнага шапіка.

— Прыгарадны вакзал. Канцавы прыпынак, — прахрыпеў прастуджаным голасам дынамік.

Дзверы адчыніліся, і натоўп ламануўся да выхаду. Сталая кабета з дзвюма гаспадарчымі сумкамі завошкалася на хвілінку ў праходзе, замінаючы астатнім пасажырам. Буся спрытна праслізнуў між яе сумак і выскачыў на вуліцу. Ён кінуўся за ім следам, але зачапіўся нагой за жалезны выступ і ледзь не расцягнуўся на брудным асфальце. Нейкі вусаты тып з перакошаным хударлявым тварам спрытна падхапіў яго амаль з падлогі і падштурхнуў да дзвярэй. Праз хвіліну ён быў ужо на волі. На яго недаўменны позірк Буся моўчкі кіўнуў галавой у напрамку нейкіх сумнеўных забудоў на даляглядзе, і яны моўчкі рушылі да іх праз шырокую прывакзальную плошчу. За шапікамі абмінулі купку дэманстрантаў. Голас аратара зліваўся з гукамі машын, і разабраць, што ён выкрыквае, было немагчыма. «ХАЙ ЖЫ-



ВЕ КПСС НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС!» — прачытаў ён на адным з плакатаў, што луналі над галовамі невялічкага натоўпу, і сцішыў хаду.

— Так жыць далей нельга! — данеслася да яго. — Калі я гавару: «камуністы», вы павінны разумець, што размова ідзе пра катаў і турэмшчыкаў, пра сэксотаў і гэбістаў, — выкрыкнуў малады мужчына. — Гэта яны гнаілі ў лагерах сумленне нашай нацыі…

— Дзермакраты херавы! — абразліва, з разуменнем справы, выцадзіў з сябе Буся і штурхнуў яго пад бок. — Пайшлі… Сукі! Пры чым тут камуністы?..

У школе пляткарылі, быццам бы яго бацька займае высокую пасаду ў аблвыканкаме. Ніхто насамрэч не ведаў якую, але гэта было і не так важна. Відаць, з гэтай прычыны шмат што сходзіла яму з рук. Аднойчы, калі класная абазвала яго цяпам за тое, што ён ледзь не скінуў са стала акварыум у кабінеце біялогіі, Буся адкрыта пры ўсім класе абразліва кінуў ёй: «Вось раскажу бацьку — і вас, Галіна Паўлаўна, заўтра з працы звольняць». «Таму ты, верагодна, і адстойваеш інтарэсы камуністаў, што бацька твой камуніст, — падумалася яму. — Нарадзіўся б ты ў іншай сям'і — былі б і песні твае іншымі…» Напрыклад, мамін брат іншых поглядаў. Ён лічыць, што калі б «шараговыя» камуністы, за якіх заступаецца Буся, выйшлі адначасова ўсе з партыі, то з яе б адразу ж асыпаўся і ўвесь той ілжывы партыйны грым. Яму захацелася нават агучыць гэтую думку, каб яе пачуў Буся, але ён стрымаў сябе, пабаяўся.

Яны перасеклі па дыяганалі плошчу і рушылі ўздоўж чыгункі. У аддаленні віднеліся некалькі жылых забудоў, хутчэй за ўсё гэта былі службовыя памяшканні. Да іх яны крыху не дайшлі, за рампай сцяжынка крута павярнула ўбок, да невялічкага хмызняку. Яны моўчкі прайшлі па ёй некалькі метраў і наткнуліся на звычайную, збітую з дошак прыбіральню.

— Вось мы і прыйшлі, — задаволена ўсміхнуўся Буся.

— Куды?.. — разгублена спытаў ён.

Неяк напрыканцы мінулага года Буся доўга хварэў і не хадзіў у школу. Дакладную гісторыю яго хваробы ніхто з вучняў не ведаў. Магчыма, усё так і засталося б на ўзроўні здагадак, калі б не Вадзік. Ён, як высветлілася, быў з ім у адной кампаніі, а што ведаюць двое, ведаюць з цягам часу ўсе. Менавіта Вадзік разнёс па школе плётку, як яны з Бусем падглядвалі ў гарадской лазні за голымі жанчынамі. Вадзікаў бацька працаваў у лазні электрыкам, і Буся, карыстаючыся момантам, навучыў Вадзіка праскрэбці цвіком некалькі драпін на зафарбаваных шыбінах, і калі сцямнела, яны ўдвух палезлі на старую таполю, галлё якой упіралася ў шыбіны лазні. Адна з галін не вытрымала іх цяжару і абламалася.

— Цягнік прыбывае праз некалькі хвілін, — адарваў яго ад успамінаў Буся. — Праверана, усе яны папруцца спачатку сюды. Глядзі не прамаргай...

Ён не дагаварыў. Усміхнуўся і па-змоўніцку падміргнуў. У паветры павісла маўчанне. Ніколі не ведаеш, што гаварыць у такіх выпадках.

— Гэта табе не Моніка Велюр, — зноў падміргнуў яму Буся.

— І што мне рабіць? — спытаў ён няўпэўнена.

— Дурань, ты што, насамрэч не ведаеш ці прыкідваешся?.. Арыентуйся сам, на месцы. Галоўнае, не выдай сябе.

Ён выцягнуў з пачка некалькі запалак і адламаў у адной з іх кончык.

— Выцягваеш кароткую — ідзеш першым. Не — іду я, — сказаў ён і схаваў рукі за спіну. Праз хвіліну выцягнуў іх зноў: — Давай, цягні.

Выпала кароткая.

— Пашанцавала, — пашкадаваў Буся. — Першаму шанцуе больш. Лады, чакаю цябе за рампай. Глядзі, толькі доўга не баўся там.

Што было далей, ён ужо памятае цьмяна. Ні за кім ён, вядома, падглядваць не збіраўся. Што ён, маленькі — жанчын голых ніколі не бачыў? Ён разумеў, што ўсё, да чаго

штурхае яго Буся, ганебна і абразліва з самага пачатку, што рабіць ён гэтага не павінен. Але адмаўляцца было таксама позна ўжо. І ён пайшоў...

Усё, што з ім потым здарылася, адбылося імгненна і было настолькі абразлівым і зневажальным, што яму ад адчаю захацелася памерці. Болю ён не адчуваў. Заціскаючы далонёю параненае вока, ён нёсся некуды ў бок рампы. Праз хвіліну ён перасек чыгунку і завярнуў за службовае памяшканне. Спыніўся і перавёў дыханне. Адняў ад вока руку. Пальцы былі ў крыві. Твар палаў агнём. Ён зноў прыкрыў вока той жа даланёй і ад безвыходнасці лёг на траву. Сэрца трывожна калацілася. У галаву лезлі розныя думкі. Яму здавалася, што ён памірае. Праз хвіліну прыбег Буся. Ён цяжка соп.

— Што здарылася? — усхвалявана спытаў ён.

— Вока, — вымавіў ён коратка.

— Што вока?

— Яна пакалечыла мне вока! — залямантаваў ён.

— Ты чаго лямантуеш, дэбіл? Блін, ну ты і Чуча!.. — замітусіўся ад безвыходнасці Буся. — Хто цябе прасіў падстаўляцца? Хто? Што мне цяпер з табой рабіць, га?

— Пайшоў ты! — выціснуў ён праз вусны.

Буся вырваў з яго рук аловак і зламаў са злосці папалам.

— Аддай аловак, — загадаў ён рашуча. Падхапіўся з зямлі і кінуўся да Бусі з кулакамі. — Аддай аловак!

— Супакойся ты, Чуча! — злосна зірнуў на яго той. — На, вазьмі свой аловак. Можаш засунуць яго сабе ў сраку.

У паветры павісла трывожная паўза.

— У бальніцу табе трэба, — першым парушыў маўчанне Буся. — І тэрмінова...

— У бальніцу? Ты што? Што я скажу маме? — крыкнуў ён у запале. — Што я скажу маме?.. Што?.. Што?..

— Ну, тады аслепнеш, дурань!

— Заткніся. Гэта ўсё праз цябе!

— Што ўсё?

— Вось гэта... — сказаў ён, выстаўляючы перад ім аловак.

— Дэбіл! Паглядзі, да каго ты падобны. Размазня. Памыйся спачатку. Давай, здымай кашулю, і хутка. Ладна, ляжы, я дам сваю.

Ён скінуў з сябе кашулю і парваў яе на шматкі.

— Блін! — жахнуўся ён.

— Перавязвай!

— Ды пачакай ты. Павязка да раны можа прысохнуць, трэба нешта падлажыць.

І тут ён успомніў пра абразок.

— Залезь да мяне ў кішэню. Там ёсць… кардонка.

Ён адчуў, як Бусева рука слізганула па целе, і спужаўся. Ён яго не бачыў. Наваколле было нейкай адзінай суцэльнай расплывістай плямай. Яно нібыта замкнулася тоўшчай мутнай смярдзючай вады. Смуродныя калыхлівыя хвалі ахіналі яго з галавой. І ён тануў у гэтай зманлівай бездані. Ён адчуваў сябе часткай гэтай бруднай калыхлівай сапраўднасці.

Божая Маці не дапамагла. Хуткую дапамогу давялося выклікаць. А яшчэ праз некалькі гадзін яму зрабілі аперацыю.

Першае, аб чым ён папрасіў, калі знялі павязку, падаць яму люстэрка. Мама нехаця дастала з сумачкі сваю касметычку. Ён доўга трымаў яе ў руках, баючыся адкрыць. Наўмысна цягнуў час. Нарэшце наважыўся, зірнуў на сябе і адхіснуўся ад выявы.

— Квазімода, — выціснуў ён пасля непрацяглай паўзы і шпурнуў касметычку ў сметніцу. Калі доўга і бязмэтна ўзірацца ў люстэрка, яно можа скрасці вашу душу… Гэта ён некалі ўжо чуў…

# 7

З кожным днём я страчваю сябе. Адчуваю, як маё жыццё выцякае з мяне, кропля за кропляй. Распаўзаецца бруднай, невыразнаю плямай. Ні чысціні табе, ні празрыстасці. Я — пустэльніца. Я — закладніца выпадковасцей. Я матылёк Каліма, асуджаны прыкідвацца сухім лістком, каб быць незаўважаным. Я — кепскі прыклад для іншых. А таму мама цяпер мяне адну на вуліцу не адпускае. Трымае пад хатняй вартай. Так ёй, сцвярджае яна, спакайней. Пра гэта яна гаворыць усім: суседзям, сваім знаёмым. І мне нічога не застаецца, як толькі чакаць чарговых выхадных, чакаць і назіраць за іншымі праз акно. Кожную нядзелю мама вязе мяне на інвалідным вазку ў горад. Не ведаю, з якой мэтай яна гэта робіць. Я з лёгкасцю абыходжуся і без інваліднага вазка. У мяне ёсць ногі, рукі. Я — здаровы, жывы чалавек. «Значыць, так трэба! — жорстка спыняе мяне мама, калі я выказваю ёй сваё непаразуменне. — Есці хочаш? Хочаш. І я хачу. Значыць, маўчы». Яна пакідае мяне адну ля газетнага шапіка на гандлёвай плошчы, і там я гадзінамі баўлю час. Гэта маё законнае месца. Такіх, як я, у горадзе шмат, і кожнаму з нас хочацца есці! Так сцвярджае мама. Яна заўжды недзе побач. Непадалёк. У эпіцэнтры імклівага мітуслівага жыцця. Але побач — гэта не значыць, што са мной. У яе іншая задача. Забірае яна мяне толькі пад вечар. Падлічвае міласціну. І калі колькасць сабраных мною за дзень грошай задавальняе яе, настрой яе заўважна паляпшаецца. І тады яна дазваляе мне крыху пагуляць бліз дома адной. Гэта і ёсць узнагарода за маю цярплівасць. Прызнаюся шчыра, выседзець цэ-

лы дзень на адным месцы ў інвалідным вазку — справа не з лёгкіх. Аднойчы я наважылася парушыць усталяваныя мамай правілы. Прыбіральня, куды мне захацелася, была недзе побач. Праз квартал. І мне падумалася, што нічога не здарыцца трагічнага за той час, пакуль я туды збегаю. Я ўстала і пайшла. А калі вярнулася, мама чакала мяне ля вазка. Такой абуранай і злой я не бачыла яе яшчэ ніколі. Здавалася б, з-за чаго? Мама не стала са мной абмяркоўваць гэта, тым больш нешта тлумачыць. Але з-за гэтага выпадку цяпер я амаль ужо месяц сяджу дома. Цяпер мяне нават у выхадныя дні не вывозяць у горад. Гэта так кепска, скажу я вам, адчуваць сябе ўвязненай. Сядзець адной, замкнёнай у пакоі, і размаўляць сама з сабою. А яшчэ са стодзівамі. Іх маўклівыя здані я маю магчымасць кожны дзень назіраць праз акно.

Яна расплюшчвае вочы і доўга ўзіраецца ў далячынь. Плошча бязлюдная. Пасярэдзіне яе — самотны мармуровы помнік. Яе позірк затрымліваецца на размытай выяве каменнага чалавека. Чамусьці ад яго заўжды чакаеш непрыемнасцей. Мама кажа, што гэта Ленін. Я не ведаю, хто такі Ленін, але я люблю размаўляць з ім…



# 8

Свет абяднеў. Напалову паменшыўся ў сваіх памерах. Вокны і тыя ў кватэры цяпер падзяліліся, адно стала маміным, другое — яго. Мама гэтыя яго песімістычныя настроі патлумачыла наступным чынам:

— Проста ты стаў дарослым. І цяпер у цябе будзе свой асобны пакой.

Ён засумняваўся, западозрыў яе ў няшчырасці. Яму падалося, што такое рашэнне мама прыняла дзеля таго, каб менш сутыкацца з ім, каб пакінуць яго сам-насам са сваёю пачварнасцю. А таму і пакой адвяла для яго не самы лепшы. Меншы па памерах, і форма акна іншая. А вокны, для таго вокны, каб забяспечваць пакой святлом. «А вочы?.. — падумаў ён. — Для чаго нам тады вочы?...»

— Вочы, сынок, — гэта тыя ж вокны... Вокны нашай душы, — сказала яму мама, нібыта ўпотай зазірнуўшы ў яго думкі. — Цяпер у цябе будзе свой пакой.

— І сваё акно.

— Так, і сваё акно, — пагадзілася яна.

«Адно акно, — захацелася ўдакладніць яму, але ён прамаўчаў, сумна зірнуў на маму і падумаў: — Значыць, і душа мая абяднела таксама. Як мінімум напалову».

— Білі, а праўда, што ты цяпер бачыш не тое, што бачаць іншыя? — спытаў у яго неяк Буся.

— Я бачу тое, што бачыў і раней! — раззлаваўся ён.

— Не скажы. Ты цяпер своеасаблівы, пазначаны Богам. Ты — геній.

— Чаму гэта? — здзівіўся ён.

— Таму што ўсе геніі былі аднавокімі, — усміхнуўся Буся.

— Ага, расказвай.

— Не верыш? Спытай у любога. Бог шэльму меціць. Глядзі, Гарбаты наш таксама пазначаны Богам.

— Што ты вярзеш? Хіба Гарбачоў аднавокі? — здзівіўся ён.

— Не, затое Кутузаў быў аднавокім... А праўда, што ты цяпер будзеш насіць чорную павязку, як піраты?

— Перастань! Якую павязку? — здзіўлена зірнуў ён на Бусю. — Хутка мне пастаўяць пратэз. Мама абяцала. У дзядзькі ёсць сувязі, ён дапаможа.

— Пратэз? — недаверліва скрывіўся Буся і задумаўся. — Знаеш, да каго ты будзеш падобны?

— Да каго?

— Да Азазелы, — зарагатаў ён.

— Хто такі гэты твой Азазела?

— А фіг яго ведае. Так гавораць усе. Хочаш, я табе акуляры падганю? Спецыяльныя, з зацемненымі шкельцамі. Іх насіў мой нябожчык дзядзька.

— Што захочаш узамен?

Буся задумаўся:

— А што ў цябе ёсць?

— Ну-у... Шмат чаго.

— Давай фотаапарат, — зірнуў на яго з выклікам Буся.

Аддаваць фотаапарат за нейкія акуляры, няхай сабе і з зацемненымі шкельцамі, яму было шкада, але выбіраць не даводзілася.

— Ну што, згода? — напіраў Буся.

— Ладна, згода, — пагадзіўся ён.

Спадзяванне, што ад калецтва можна схавацца за цёмнымі шкельцамі, не спраўдзілася. Варта было яму паказацца раніцай у школе, як у класе адразу ж усталёўвалася падазроная цішыня. Вучні зіркалі на яго, лезлі, не саромеючыся, з непрыстойнымі пытаннямі. І гэтая іх звышувага пачала пакрыху раздражняць яго. Адзіным выйсцем з той сітуацыі, якая пачала складвацца, была адзінота. І тады ён вырашыў вучыцца сябраваць з сабой.



Вярнуўшыся неяк са школы, ён знайшоў у паштовай скрыні адрасаваны яму ліст. Почырк на канверце сведчыў, што ліст ад дарослага чалавека, хутчэй за ўсё, ад жанчыны. Ён доўга не разрываў канверт, баяўся, а мо прадчуваў нешта нядобрае. Наважыўся толькі праз дзень. Расправіў складзены ўчацвёра ліст і хуценька прабег вачыма: «Вось я і знайшла цябе. Задача была складаная. Сам зразумей, бачыла я цябе толькі аднойчы і то са спіны. Ні твару твайго, ні імя я не ведала... «Божа! — малілася я неаднойчы. — Дапамажы мне знайсці яго...» Шукаць чалавека ў вялікім горадзе — гэта ўсё роўна, што шукаць голку ў стозе сена. І я знайшла яе, сваю голку ў стозе сена. Я хачу папрасіць у цябе прабачэння. Што я магу яшчэ прасіць?! Ведай, я малюся за цябе і буду маліцца да скону дзён сваіх, усё астатняе сваё жыццё. Бачыць Бог, я не хацела гэтага. Я не хацела прычыняць табе боль. Так атрымалася. Я шмат што аддала б цяпер за тое, каб гэтага ніколі не здарылася. На жаль, назад ужо нічога не вернеш. Цяпер я твая вечная даўжніца. Н.»

Ён некалькі разоў перачытаў ліст. Потым запіхнуў яго ў кнігу, каб не знайшла мама. Яна не ведала ўсіх падрабязнасцяў той трагічнай гісторыі. Ён схлусіў ёй, напрыдумваў усякага-рознага. Увёў усіх у зман. І Бусю падмовіў, каб маўчаў. Чым даў яму падставу для шантажу. І трэба прызнацца, Буся не прамінае выпадкаў карыстацца гэтым. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

На наступны дзень ён прапусціў заняткі і ўвесь дзень патраціў на пошукі незнаёмкі. З самага ранку ён накіраваўся ў цэнтральную частку горада. Купіўся на тое, што штамп на канверце належаў трэцяму аддзяленню сувязі. Ён акрэсліў у думках тэрыторыю, дзе магла б пражываць жанчына, і вырашыў абследаваць для пачатку чатыры вуліцы. «Калі яна жыве тут, мы абавязкова сустрэнемся, — саманадзейна вырашыў ён. — Быць таго не можа, каб яна не праявіла сябе. Тым больш што мяне яна, калі судзіць па допісу, цяпер ужо ведае ў твар». Ён зняў акуляры, наўмысна нача-

піў на твар чорную павязку, каб кідалася ў вочы стрэчным, і пачаў пошукі. Ён не ведаў, што скажа гэтай жанчыне пры сустрэчы, ён нават і не думаў пра тое, для яго было важна яе знайсці. Як выглядае жанчына, які яна мае ўзрост, даводзілася толькі здагадвацца. Тое, што запомнілася, не мела цяпер аніякай карысці. Нязначныя дробязі, фрагменцік: частка рукі, пярсцёнак і невялічкі размыты трохкутнічак блузкі. Вось і ўсё.

Пошукі не прынеслі вынікаў. Час быў змарнаваны. Ён доўга блукаў па шматлюдных вуліцах, тупа ўзіраючыся ў твары мінакоў. Адны абыходзілі яго бокам, нібы вар'ята, іншыя спяшаліся як мага хутчэй раставарыцца ў вірлівым натоўпе ці схавацца ў пад'ездзе свайго дома. Верагодна, у яго і сапраўды быў вар'яцкі выгляд. Пад вечар ён усё ж западозрыў у адной кабеце тую, каго шукаў. Яму падалося, што пярсцёнак на яе пальцы падобны да таго, які ён некалі бачыў у той жанчыны. Ён плёўся за ёю амаль да пад'езда. Калі ўглядаўся ў жанчыну больш пільна, яму здавалася, што і блузка на ёй таго ж фасону. Спачатку кабета не заўважала яго. Потым, западозрыўшы за сабой сочку, пачала здзіўлена азірацца. Нарэшце спынілася, дачакалася яго і спытала: «Ты нешта хацеў, хлопча?» Ён прамаўчаў. Жанчына ветліва ўсміхнулася і накіравалася да пад'езда. На тым пошукі тады скончыліся. Дзень можна было б выкрасліць смела з жыцця, калі б не школа. Ён прапусціў заняткі, а гэта азначала, што заўтра давядзецца тлумачыць маме прычыну сваёй адсутнасці ў школе. Класная абавязкова патэлефануе ёй, калі ўжо не патэлефанавала. А гэта — зноў слёзы. Сапсаваны настрой. І ён вырашыў апярэдзіць настаўніцу.

— Перавядзі мяне ў іншую школу, — папрасіў ён вечарам у мамы.

На яе твары застыла здзіўленне.

— Гэта немагчыма, сынок. Ва ўсякім разе, ты як мінімум павінен скончыць чвэрць. Ну а потым паглядзім.

— Мне прыкра вучыцца ў гэтай школе, — заявіў ён нечакана, выціскаючы слязу.

— Гэта чаму? — зірнула на яго недаверліва мама.

— Яны здзекуюцца з мяне, зневажаюць. Называюць мяне Азазелай, — схлусіў ён.

— Кім?

— Азазелай.

— Ну, што ты такое пляцеш! Якім яшчэ Азазелай!.. Усё, з мяне хопіць, заўтра я разнясу тваю школу ўшчэнт, — паабяцала мама і ціха заплакала. Ён спужаўся. Ведаў: так яно і будзе. Спачатку яна паставіць на вушы настаўнікаў, а потым, калі ёй раскажуць праўду, і яго...

І ўсё ж школу ён сапраўды памяняў. З пятай перавёўся ў сямнаццатую. Адразу ж пасля зімовых канікулаў. Дабірацца туды стала нязручна. Але, нягледзячы ні на што, сваім выбарам ён застаўся задаволены. Надзеі на Бусю не апраўдаліся. «Хопіць! Я выходжу з твайго ценю! — вырашыў ён цвёрда. — Ты не той, на каго я разлічваў. Цяпер я сам па сабе».

Праз месяц ён атрымаў ад незнаёмкі яшчэ адзін ліст. Потым яшчэ адзін... Гэта пачынала раздражняць яго. Лісты прыходзілі звычайна напярэдадні свят. Акрамя іх, ён атрымліваў пасылкі. Падарункі былі самыя звычайныя. Пераважна — танныя сувеніры. Аднойчы ён атрымаў касету з запісамі Арва Пярта. У суправаджальным лісце было напісана наступнае: «Арва Пярт: «TE DEUM»».

# 9

Мой позірк дасягае яго ля пад'езда. Я бачу, як ён адчыняе дзверы і азіраецца.

— Ляля!.. — ціха шапчу я.

У паветры завісае жудасная напружанасць. Перасільваю страх і выціскаю ўсмешку. Спадзяюся, яна пагасіць яго злосць. Спадзяванні мае неапраўданыя. Яго твар змрочны і стомлены.

— Ляля!... — паўтараю я ўпарта. Так я яго называю заўжды, калі мне страшна. Я ўжо даўно перакананая, гэтым чалавекам захапляцца небяспечна. Ад яго, як і ад таго, што на плошчы, вее ледзяным, замагільным холадам. Скуль у іх гэтая векавая напружанасць? Скуль у іх гэты векавы холад? Узіраюся ў твар. Што хавае ён за гэтымі акулярамі? Чакаю, калі ён здыме іх. Але гэтага не адбываецца. У які раз задавальняюся нязначным, мізэрным. Дзверы зачыняюцца. І я застаюся зноў адна. Сама з сабой.

— Усё роўна цябе пацалую! Ляля!..

# 10

Пераход з адной школы ў іншую не вырашыў яго праблем. Наадварот, комплекс непаўнавартаснасці, на які ён пачаў хварэць пасля той трагічнай гісторыі, укараніўся яшчэ больш у яго свядомасці. Мянушка таксама пацягнулася за ім следам. Цяпер інакш, як Білі, яго ніхто не называў. Гэта толькі ўзмацніла нянавісць да аднагодкаў. Ён пачаў пазбягаць іх, трымацца асобна, на пэўнай адлегласці. Свет, які ён ствараў сабе, быў не заўжды зразумелы іншым, але затое зручны для яго самога. Усё астатняе яго не турбавала. Галоўнае, што ён сам пачуваў сябе ў ім як рыба ў вадзе. На нейкі час яму падалося нават, што ён знайшоў сябе. «Не маеш сяброў, — цвёрда вырашыў ён, — зрабі сваім сябрам сябе самога!» Ён не памятаў ужо дакладна, у каго запазычыў гэтую карысную і неабходную параду, але яна стала выратавальным кругам, які ўтрымліваў яго на паверхні жыцця. Хацелася яму таго ці не, аднак яму давялося вучыцца жыць у згодзе з новымі абставінамі, а найперш у згодзе з самім сабой і трымаць нос па ветры. Выпадалі дні, калі ён забываў пра сваё калецтва, жыў як і ўсе вакол, пакуль нехта далікатна не нагадваў яму пра гэта. У такія хвіліны нянавісць да людзей толькі ўзмацнялася. Калі шчыра, ён ніколі і не любіў іх. На гэты конт ён меў сваю пазіцыю, свае ўласныя перакананні. Ён лічыў, што любіць патрэбна асобнага чалавека, а не чалавецтва агулам. І тое калі ёсць за што.

Вучыўся ён цяпер у дзясятым класе і лічыў сябе чалавекам дарослым. Яму падабалася, што ён ужо можа самастойна прымаць любыя рашэнні і несці адказнасць за іх.

І калі мама надумала ў чарговы раз узяць шлюб з нейкім сумнеўным, на яго думку, тыпам, ён нават цынічна падтрымаў гэты яе намер. Вядома, загадзя падлічыўшы ўсе за і супраць. Тое, што аднойчы яму давялося пачуць у свой бок ад мамінага хахаля, толькі дадаткова пераканала, што жыць разам з імі ён не стане і што разлічваць з гэтага часу яму давядзецца толькі на сябе.

— Я не збіраюся марнаваць час на выхаванне твайго байструка, — жорстка папярэдзіў неяк маму айчым. Ён так і не зразумеў, з якой такой нагоды яны абмяркоўваюць яго асобу. Мама ў адказ прамаўчала, а айчым катэгарычна дадаў: — Ты павінна вызначыцца. І ў самы кароткі тэрмін. Не бойся, ён не прападзе, ён ужо дарослы...

Слухаць далей іх размову ён не стаў. І, каб не расплакацца наўзрыд, выбег на лесвічную пляцоўку. Маме пра тое, што ён чуў усё, нават не намякнуў, але айчыма з гэтага дня ціха ўзненавідзеў. Таму яе рашэнне пераехаць па месцы жыхарства мужа прыняў за шчасце. Кватэра заставалася яму, і цяпер ён быў сам сабе гаспадар.

— Сяргей, нам шмат ёсць аб чым пагаварыць... І я хацела б... — наважылася неяк мама. Гэты яе парыў не заспеў яго знянацку. Ён загадзя ведаў, пра што пойдзе гаворка, і ўнутрана быў падрыхтаваны да яе.

— Сяргей! — пачала непераканаўча яна пасля працяглай паўзы. — Хацелася б, каб ты зразумеў мяне... Ты дарослы, а таму я буду гаварыць з табой шчыра... Пэўны час табе давядзецца пажыць аднаму...

У пакоі павісла цішыня. І яму падалося, што ўсё ў гэтым пакоі, у тым ліку і яны самі, створана з хлусні і маўчання. А яшчэ з цынізму. Мама марудзіла. Ён таксама не спяшаўся. Гэта быў своеасаблівы двубой — хто каго.

— Ва ўсякім разе, я не ў Амерыку з'язджаю, — сказала яна нарэшце. І нават паспрабавала выціснуць з вачэй слязу. Ён выразна адчуў гэтую яе няшчырасць і штучнасць пачуццяў. Вільгаць у кутках вачэй так і засталася нявыпла-

канай. — Бацькам табе Ігар ніколі не стане. Гэта відавочна. А разрывацца на часткі паміж вамі я не змагу, не хопіць здароўя. Так што...

Думка абарвалася. Значыць, Ігар? Паўтараць двойчы не было патрэбы.

— Я яшчэ маладая... Мне яшчэ і сарака няма. Я хачу жыць... Мы будзем бачыцца з табой кожны дзень. Я буду прыходзіць да цябе, і ты прыходзь да нас... Але жыць з гэтага дня нам давядзецца паасобку. Так будзе лепей... І для мяне, і тым больш для цябе.

«Ідзі і жыві!» — цынічна падумаў ён і ледзь стрымаў сябе, каб не сказаць гэта ўслых. Крыўду аддаліла думка аб свабодзе — той, з якой у хуткім часе ён не будзе ведаць што рабіць. Але засяроджвацца на нечым адным было не ў яго правілах. Філасофія яго жыцця была простая і даступная: вось яно — станоўчае, а вось яно — адмоўнае; гэта — так, а гэта — не. «Бяда — пачуццё інтымнае, — быў перакананы ён. — Маўклівае. Яна схавана ў самой сабе і маўчыць... да пары. Цені звужаюць свет!» — заўжды памятаў ён. Схільнасць назіраць за іншымі нарадзілася ў ім толькі з адной мэтай: глуміцца з іх слабасцей і не быць падобным самому да гэтых аўтсайдараў. Яму здавалася, што веды пра тое, хто ёсць такі чалавек на самой справе, толькі духоўна ўзвысяць яго над астатнімі, дададуць упэўненасці, а свае памылкі ў параўнанні з памылкамі іншых пададуцца чыстай дробяззю. З Вялікіх «аднавокіх», а цікавіцца імі ўсур'ёз ён пачаў пасля той памятнай размовы з Бусем, ён найбольш захапіўся Сартрам. Пазнаёміўшыся амаль з усімі яго празаічнымі творамі, ён мог цяпер цытаваць яго цэлымі абзацамі. Сартр стаў для яго своеасаблівым духоўным настаўнікам. З ім можна было раіцца, не згаджацца, але яго нельга было выкрасліць са сваёй свядомасці. «Філфак, толькі філфак», — вырашыў ён, калі перад ім паўстала пытанне выбару прафесіі.

— Кожны сам сабе выбірае жыццё, — сказаў ён, цытуючы свайго куміра. — Пекла — гэта іншыя.

Выпадковая сустрэча з Бусем на калідоры вышэйшай установы не толькі не абрадавала яго, а, наадварот, раззлавала. Сутыкнуліся яны амаль лоб у лоб ля дэканата, куды ён прыйшоў даведацца пра вынікі нядаўніх іспытаў. Такога ён нават не сніў сабе ў страшным сне. Не таму ён развітваўся з Бусем і мяняў школу, каб сустрэць яго зноў. Мінула шмат часу, і яму здавалася, што яны разышліся назаўжды. Для яго было відавочна: ён перарос Бусю.

— Білі! Білі! — паклікаў яго Буся. Забыць гэты надрывісты, самаўпэўнены тэнар было немагчыма. Ён збянтэжана азірнуўся. — Білі, ёлкі зялёныя! Гляджу — і вачам сваім не веру.

Малады чалавек моршчыў лоб і задаволена ўсміхаўся. Несумненна, гэта быў Буся, той самы Буся, у ценю якога ён некалі марыў жыць. Буся амаль не падрос за гэты час. Застаўся такім жа, як быў. Мізэрны хітраваты паляшуцкі тварык па-ранейшаму свяціўся той жа глумлівай, нахабнай усмешкай. Меў рацыю Платон: «Чалавеку, для таго каб расці інтэлектуальна, неабходна найперш быць прыгожым фізічна». Нічога такога ў Бусі не было і блізка. Ён так і застаўся ганарлівым самаўпэўненым задавакам. «І я разлічваў на гэтага чалавека? — не хаваючы агіды, жахнуўся ён. — Няўжо нам давядзецца разам вучыцца?»

— Білі!..

— Што?

— Чаму на філфак, Білі? — заспяшаўся з пытаннем Буся. — Даруй, але з цябе настаўнік — што з лайна куля, — з’язвіў ён у звыклай здзеклівай манеры.

«Такі самы, як і з цябе, дарэчы», — збіраўся сказаць ён, але стрымаў сябе.

— Хто табе сказаў, што я збіраюся стаць настаўнікам? Я буду журналістам... — самаўпэўнена выціснуў ён.

— Чаму тады на філфак, а не журфак? — цяпер ужо шчыра здзівіўся Буся.

— На журфак цяжэй паступіць, там конкурс вялікі, — схлусіў ён. — Сюды нашмат меншы.

— Лады, праехалі. Замнём для яснасці,— спыніў яго Буся. — У якую групу залічылі?

— У дванаццатую. А цябе?

— Таксама. Глядзеў спісы?

— Глядзеў, — нехаця адказаў ён.

— Адны цёлкі, — задаволена падсумаваў Буся і змоўніцкі паляпаў па плячы. — Адтапырымся, брат, га?!

Ягонае іранічнае «брат» разанула слых. «Адтапырымся!..» Да жанчын у яго было сваё стаўленне. «Усе гэтыя сюсюмусю — не для мяне, — лічыў ён. — Усе гэтыя гульні ад жывёльных інстынктаў...»

Гэтую думку ён неяк паспрабаваў нават агучыць пры маме. Так бы мовіць, хацеў праверыць яе жыццяздольнасць. На што мама толькі сумна ўсміхнулася:

— Ліха ты маё, ліха! Якое ж ты яшчэ зялёнае!

Ліхам яна яго называла цяпер часта, асабліва калі выказвала сваю з ім нязгоду. Яму ж чамусьці здавалася, што гэтым словам маці імкнецца падкрэсліць яго знешнюю пачварнасць і непаўнавартаснасць.

— Ну, дык што, адтапырымся, Білі? — настырна перапытаў Буся.

— Адтапырымся, — адказаў ён нехаця.

— Што ты такі кволы, нешматслоўны? — здзівіўся Буся.

— Ёсць праблемы, — схлусіў ён.

— А ў каго іх няма? Хочаш шчыра?

У паветры павісла паўза.

— Ты думаеш, мне гэтая вучоба патрэбна? — нечакана прызнаўся Буся. — Ды пляваць я хацеў на ўсё. Глядзі, — ён дастаў з ранца невялічкую сінюю кніжку і працягнуў яму. — Глядзі, глядзі...

— Што гэта? — недаверліва спытаў ён.

— Дыплом.

— Дыплом? — здзівіўся ён. — Чый дыплом?

— Мой. Мне толькі засталося дачакацца, калі ён стане сапраўдным. Вось і ўсё.

— Дзе ты яго ўзяў?

— Дзе ўзяў, дзе ўзяў, — іранічна ўсміхнуўся Буся. — Хіба гэта праблема? Былі б грошы. Хочаш — і табе купім. Папрашу бацьку. У яго сувязі. Хочаш?..

Ён прамаўчаў.

— А ты гаворыш «праблемы». Няма ніякіх праблем, Білі. Грошы — вось асноўная праблема. Ну дык што, да панядзелка?

— Чаму да панядзелка? — не зразумеў ён.

— Сямён Сямёнавіч! — абразліва зморшчыўся Буся. — А ўстановачная лекцыя калі, па-твойму?

— А-а, — сумна ўсміхнуўся ён. — Дакладна.

— Ну, а наконт дыплома ты ўсё ж падумай. Не так гэта дарагА каштуе...

Менавіта ў той самы дзень на падыходзе да свайго дома ён і сустрэў Яе ўпершыню.

— Усё роўна цябе пацалую! Ляля!..

Вар'ятка падалася яму не толькі дзіўнай і смешнай, але і прыгожай. Ён нават пажартаваў:

— Не, любая, не, я не ляля... Я ліха. Я — дух зла і няшчасця. Я ўвасабленне гора. Сцеражыся мяне. У-ух!..

Вар'ятка задаволена зарагатала. Ён таксама засмяяўся, верагодна, не ўяўляючы сабе, наколькі праўдзівымі і прарочымі былі гэтыя яго словы.

— Ты добры... Ты ляля!

— Наталля, марш дахаты! — спыніў яе жаночы патрабавальны голас. Ён азірнуўся, і яго позірк сустрэўся з позіркам незнаёмай жанчыны.

— Ты добры, — усміхнулася яму напаследак вар'ятка і подбегам кінулася да пад'езда.

— Хто гэта? — пацікавіўся ён у суседкі.

— Нашы суседзі. Грынічы, — ціха адказала тая. — Тыдзень як засяліліся...

# 11

Дні няма чым запоўніць. Божа! Не адымай у мяне майго няшчасця! Я тоненькая сухая галінка на магутным векавым дрэве Жыцця. Я — рэха хвіліннай жывёльнай жарсці. Я — адгалосак няспраўджаных нечых мар. Я выпала даўно з гэтай будзённай сапраўднасці, і няма альтэрнатывы майму змушанаму пустэльніцтву. Чапляйце на мяне ўсе свае зямныя заганы. Чапляйце на мяне ўсе свае спрадвечныя грахі. Я вытрываю ўсё. Я сцярплю. Я змаўчу. Я адужаю ўсё, бо мне хочацца жыць. Я такая, якая ёсць. Я такая, якой мяне нарадзілі. І я не вінаватая, што мне наканавана пакутаваць за чужыя грахі. Здагадваюся, дзеля гэтага Бог мне даў усё: моц, вытрымку, пакору... Вы лічыце мяне душэўна хворай, але ў чым маё вар'яцтва, не тлумачыце. Смешныя вы нейкія, людзі! Вы займаецеся маёй душой, каб нічога не ведаць пра сваю. Паслухаць вас, дык такім, як я, не месца сярод вас, што мяне нічога не чакае станоўчага ні тут, на зямлі, ні ў іншых вымярэннях, нідзе. І гэта ваша ісціна? Ісціна сфабрыкаваная са слоў, якіх вы ніколі не казалі. Ды вашы вочы — самыя лепшыя словы. Яны і выкрываюць вашу лжывую сутнасць, вашу надуманую спагаду. Чым вы лепшыя за мяне? Чым? Мая незаўважнасць — усяго толькі абярэг ад вашай хлусні...

— Усе людзі грэшныя! Усе людзі саўдзельнікі Вялікіх выпрабаванняў! — не забывае нагадваць мне мама штодня. — Людзі бяскрылыя, а таму асуджаныя рабіць тое, што ім не падыходзіць. А ты незаўважаная Ім!

— Кім?..

Пытанне застаецца без адказу. Пытанне завісае ў паветры, нібы сякера. Звісае нада мной... Скуль набрацца на ўсіх нас тых чыстых пастыраў?..

Я шукаю Твае вочы. Паўсюль. І не знаходжу. Відавочна, яны захапляюцца не мной. Але я ўсё роўна шукаю. Я перакананa, што, калі сапраўднасць робіцца невыноснай, калі табе ў ёй няма месца, менавіта тады адчыняюцца іншыя, новыя далягляды. Хто дасць мне прытулак у сваёй памяці?.. Хто?..

# 12

Буся зблытаў усе яго планы. Быць студэнтам яму нечакана перахацелася. Некалькі дзён ён хадзіў сам не свой. «Не, толькі падумаць, пяць гадоў з дня ў дзень цяпер я павінен буду сустракацца з гэтым абізгалам, — абураўся ён. — Слухаць яго лухту, пакорліва ўсміхацца і маўкліва выцірацца пасля яго чарговых зняваг. Навошта мне гэта? Хіба на такую перспектыву я разлічваў?» І яму захацелася забраць дакументы. Ён так і зрабіў бы, калі б не мама. Яна завітала са сваім Ігарам днямі, каб павіншаваць яго з новым навучальным годам. Айчым, як заўжды, паводзіў сябе пры ім сціпла. Ён больш маўчаў, чым гаварыў. Мама ж, наадварот, была ў добрым гуморы. Смяялася без прычыны, лезла з парадамі. Але варта было яму толькі заікнуцца аб тым, што ён забірае з універсітэта дакументы, як яна адразу ж знікла і паспешліва пацягнулася да сумкі па валяр'янку. Вечар быў сапсаваны. Давялося зноў выслухаць цэлую лекцыю на тэму «У людзей дзеці як дзеці...». Ён паспрабаваў абгрунтаваць сваё рашэнне, але ў спрэчку ўмяшаўся айчым:

— Дыплом не камень. Яго не цяжка цягаць за плячыма. Займай чаргу і чакай. Не паспееш азірнуцца — а ўжо дзяржы...

Ён ужо чуў гэта ўсё. Ад Бусі. Довады былі неаспрэчныя. Мама слёзна вымусіла яго паабяцаць, што ні пры якіх умовах ён не кіне інстытут, і перад тым, як развітацца, падала яму невялічкую каляровую паперку:

— А гэта табе падарунак ад нас, — сказала яна лагодна. — Твой любімы Пярт.

Ад хвалявання ў яго перахапіла дыханне. Паперка выслізнула на падлогу. Ён хуценька падхапіў яе.

— Ён прыязджае да нас з канцэртам?

— Не, яго творы будуць выконваць іншыя музыкі. Квіток дастаўся мне па знаёмстве. Хацелася дагадзіць табе. Наколькі памятаю, ты некалі фанацеў ад яго музыкі.

Скарыстаўшыся момантам, мама абняла яго і прытуліла да сябе. Мо ўпершыню ён не стаў ухіляцца. Тады яна пацалавала яго, і ён адчуў на сваёй шчацэ вільгаць. Мама плакала.

— Такі падарунак! — паглядзеў ён на яе падазрона. — З якой нагоды?

— Як жа, сёння ты стаў студэнтам.

— А-а-а, — расчаравана ўсміхнуўся ён.

Мама ўсё пралічыла. Сустрэча з музыкай куміра адбылася 13 верасня, у дзень яго нараджэння. Гэты хвалюючы момант ён запомніць на ўсё астатняе жыццё: вялізны зал, мяккія крэслы, злева і справа незнаёмыя жанчыны — гняздо з чысціні і парфумы — і яго любімы «TE DEUM». А яшчэ слёзы… Яго слёзы. Слёзы жалю і спачування да самога сябе…

— А, гэта ты! — сустрэў яго здзеклівым прывітаннем Буся. Ён чакаў ля ўніверсітэта. — Ты ўсе яшчэ той самы?

— Не зразумеў…

— Аматар распускаць нюні? — удакладніў Буся.

— Не зразумеў, — паўтарыў ён і недаўменна зірнуў на Бусю.

— Ну ты і Чуча! — адмахнуўся той. — Варушы паршнямі. На пару спознімся.

— Пайшоў ты! Нікуды я з табой не пайду, — заўпарціўся ён.

— Трындзец! Ты што, пакрыўдзіўся? Пайшлі. Раскажу нешта цікавае па дарозе.

Як выявілася, ён таксама быў учора на канцэрце. З мамай. Болей таго, бачыў яго заплаканага ў антракце.

— Хацеў падысці да цябе. Але я быў не адзін, на жаль. А так…

— Што «а так»? Што? — узмацніў ён да непазнавальнасці голас. — Ну плакаў… Што далей?

— Нічога, — паціснуў плячыма Буся. — Проста падумалася, што ты так і застаўся размазнёй!



«Не разумее ён! — абурыўся ён у думках. — Не дарос ты яшчэ да гэтага...»

І ўсе ж ён пакрыўдзіўся на Бусю не на жарт. Усю першую пару яны амаль не размаўлялі. Буся падазрона круціўся, страляў вачыма па баках, лез з недарэчнымі пытаннямі, а ён рабіў выгляд, што не звяртае ўвагі. Наступная па раскладзе пара была прысвечана сусветнай літаратуры. Пра выкладчыка гэтага прадмета хадзілі розныя чуткі: што ён нібыта чалавек строгі і патрабавальны да сваіх падапечных, што ён употай спіць са сваімі студэнткамі, што пры магчымасці не супраць хабару і што залікі яму здаюць толькі з трэцяга разу. Таму, наслухаўшыся гэтых жахаў, на занятки прыйшла амаль уся група.

У аўдыторыю ўвайшоў сярэдніх гадоў мужчына з партфелем, і ўсе ўсталі. Ён ветліва павітаўся і запрасіў усіх сесці. Ледзь заўважным жэстам, нібыта сапраўдны рэжысёр. Першае, што яму кінулася ў вочы, гэта незалежнасць паводзін гэтага чалавека. Ён нават падумаў: «Быў бы ён маім бацькам, глядзіш, і ў мяне ўсё было па-іншаму!..»

— Ну што, — зірнуў ён на аўдыторыю з выклікам, — будзем знаёміцца?.. Завуць мяне Мікалаем Мікалаевічам. Прозвішча маё — Хініч.

Мінула хвіліна. Нечакана яму падалося, што выкладчык чамусьці часта спыняе свой позірк на ім, чым надае яму больш увагі, чым астатнім студэнтам. Ад гэтай думкі і хвалявання ён ледзь было не зняў акуляры.

— Студэнты за вочы мяне называюць яшчэ Сартрам, — дадаў выкладчык і павольным крокам рушыў да свайго стала.

— Сартрам? — здзіўлена прашаптаў ён. Яму падалося, што ён ачуўся. Яго голас насамрэч ускалыхнуў цішыню, і ўсе рэзка павярнулі галовы ў яго бок. Выкладчык спыніўся і таксама зірнуў на яго.

— Так, Сартрам, — удакладніў ён, гледзячы яму ў вочы. — І я не пакрыўджуся, калі мяне нехта з вас стане называць менавіта так.

Ён хвілінку счакаў, пагартаў для выгляду журнал і зноў выйшаў з-за стала.

— Ну а зараз мая чарга задаваць пытанні, — выціснуў ён іранічную ўсмешку, звяртаючыся да аўдыторыі. — Скажам, вось вы, малады чалавек, — зірнуў выкладчык на яго, — як вас зваць?

— Сяргей, — адказаў ён дрыготкім ад хвалявання голасам.

— Сяргей… — пасмакаваў выкладчык. — А назавіце мне, Сяргей, прозвішча пісьменніка, твор якога вы прачыталі апошнім часам.

— Музіль, «Чалавек без уласцівасцей», — схлусіў ён. Не называць жа яму Сартра. Пасля таго, што адбылося, гэта падалося б сапраўдным цынізмам.

— Што ж, вельмі выдатны выбар. А вы? — звярнуўся ён з тым жа пытаннем да Бусі. Буся заўважна захваляваўся. Было відно, як ён сіліцца нешта ўспомніць, але штучнасць было цяжка схаваць. Зразумеў гэта і выкладчык. — З вамі ўсё зразумела, — сказаў ён і рушыў да століка насупраць. — А вас як завуць? — звярнуўся ён да дзяўчыны.

— Марына, — выціснула тая і чамусьці заружавелася.

— А скажыце нам, Марына, — у паўздзеклівай форме звярнуўся ён да дзяўчыны. — Які твор чыталі вы?

— Дзіна Буцаці, «Татарская пустэльня».

— А вы? — звярнуўся ён да яе суседкі.

— Вікторыя! — назвалася яна. — Стэндаль, «Чырвонае і чорнае».

— Выдатна, таксама някепскі выбар, — падсумаваў выкладчык і зноў накіраваўся да свайго століка. — Мне здаецца, нам знойдзецца пра што пагаварыць.

— Значыць, Жульен Сарэль? — сказаў ён і рэзка павярнуўся да аўдыторыі. — Ці Ульрых?..

— Думаю, што сваім цынізмам, сваёй пагардай да ўсяго і ўсіх, акрамя сябе, безумоўна, Жульен нечым падобны да драйзераўскага Клайда Грыфітса, — выкрыкнуў нехта з аўдыторыі, выхваляючыся сваёй эрудыцыяй. Выкладчык па-



вярнуўся ў бок, адкуль прагучаў голас. З-за стала падняўся малады чалавек.

— Віктар, — назваў ён сябе.

— І?.. — зірнуў на яго выкладчык.

— І адзін, і другі скончылі сваё жыццё ў турме.

— Не разумею, чым людзям не дагадзіў Жульен Сарэль?

— Ён любіў толькі самога сябе. Самым страшным для яго было паказацца слабым ці то перад ворагам, ці то ў каханні, — рэзка парыраваў малады чалавек.

— О, у нас дасведчаная аўдыторыя! І гэта выдатна, — сказаў Мікалай Мікалаевіч. — Мне прыемна размаўляць з вамі, маладыя людзі. Але як жа тады «Палюбі бліжняга свайго, як самога сябе?» Хіба гэта так кепска, што чалавек любіць самога сябе?

Аўдыторыя маўчала.

— А скажыце мне тады, шаноўныя мае, а тут большая палова аўдыторыі — жаночая, за што яго тады кахалі жанчыны? Помніце разважанні Мацільды? «Ён варты быць маім гаспадаром, бо ён здольны быў забіць мяне». Як вы ставіцеся да такой думкі? Ці даспадобы вам такія разважанні?

— Любяць не за нешта, любяць проста таму, што любяць, — паспяшалася адказаць Марына.

— Эх, спадарыня вы мая! Раман — як люстэрка, з якім ідзеш па вялікай дарозе. То яно адлюстроўвае блакіт небасхілу, то брудныя лужыны і выбоіны. Ідзе чалавек, узваліўшы на сябе ўсё гэта, а вы яго вінаваціце ў амаральнасці! Вы вінаваціце люстэрка. Вінавацьце хутчэй ужо вялікую дарогу з яе лужынамі. А лепш — дарожнага наглядчыка, які дазваляе, каб на дарозе стаялі лужыны і запасаўся бруд. Як вы лічыце, Марына, гэты чалавек усведамляў сабе, што ён робіць, чым рызыкуе? Маю на ўвазе Жульена.

— Жульен — так, Мацільда — не.

Павісла працяглая паўза.

— А мне здаецца, што і Жульен, і Мацільда нічога падобнага не ўсведамлялі, — парушыў маўчанне выкладчык. — Розум

палахлівы па сваёй сутнасці, ён замінае людзям быць шчаслівымі, ён змушае нас сумнявацца. І страта ўсяго таго, што мы маем, што некалі мелі — не ёсць няшчасце. Праўда, да гэтага дадумаліся пазней… І дадумаўся да гэтага Сартр… Але далёка да яго пра гэта думаў і Стэндаль. Жульен як герой таго часу… — Мікалай Мікалаевіч памаўчаў хвілінку і паправіўся: — Як герой нашага часу, ёсць таму яскравы прыклад. Чалавек сам адказны за свае ўчынкі. Па вялікім рахунку, важна не тое, да чаго ты імкнешся, а тое, што ты ўяўляеш з сябе на самой справе. Нам неабходна высветліць і яшчэ адну дэталь: у чым падабенства гэтых двух герояў: музілеўскага Ульрыха і стэндалеўскага Жульена? — звярнуўся ён з пытаннем да аўдыторыі. — Ну, хто дапаможа нам у гэтым разабрацца? Можа, вы, Сяргей?

— У тым, што абодва яны — людзі без уласцівасцей, — знайшоўся ён. Мікалай Мікалаевіч скептычна ўсміхнуўся.

Празвінеў званок.

— Аб’яўляецца перапынак, — абвесціў выкладчык. — Усе свабодныя.

Аўдыторыя з палёгкай уздыхнула. Некаторыя пачалі прыбіраць са сталоў свае сшыткі, некаторыя заспяшаліся да дзвярэй. Ён таксама падхапіўся з месца, кінуўся да выхаду.

— А вас, малады чалавек, я папрашу на хвілінку затрымацца, — нечакана спыніў яго ля дзвярэй Хініч. — Усяго на хвілінку.

— Слухаю вас.

— Вы схлусілі мне, малады чалавек. Навошта? — спытаў ён, не хаваючы сваёй іроніі. — Ніякага Музіля вы не чыталі. Ці я памыляюся?..

— Чаму вы так вырашылі? — здзівіўся ён.

— На гэтае пытанне я паспрабую даць адказ вам крыху пазней, — сказаў ён і накіраваўся да дзвярэй. Праз некалькі крокаў азірнуўся і дадаў:

— Дарэчы, вам гэтыя акуляры не да твару. Чаму вы іх не знімеце? Вы блізарукі?



— Гэта вас не тычыцца, — рэзка сказаў ён.

Выкладчык спахмурнеў.

— О! А вы, Сяргей, не такі ўжо і ціхоня. А я падумаў спачатку… Хаця ўсё правільна, без канфліктаў няма развіцця… Да пабачэння.

— Да пабачэння.

Буся чакаў яго на калідоры.

— Што хацеў ад цябе гэты Хініч?

— Нічога, — буркнуў ён незадаволена.

— І ўсё ж?

— Хацеў памерацца членамі…

# 13

Мама сцвярджае, што я ніколі не стану дарослай. Я не веру ёй. Нават калі гэта так — тое не прычына, каб мяне ненавідзець. Насамрэч яна добрая, я ведаю. Яна нават пацалавала мяне аднойчы. Тыдзень таму. Здарылася так, што я па сваёй няспрытнасці ледзь не папала пад машыну. Адбылося ўсё незнарок, нечакана. Мне запомніўся толькі шкляны бляск вуліцы — накропваў дождж — і скрыгат жалеза. Яшчэ я пачула нечыя галасы. Як праз сон, у аддаленні. І я патанула ў цемры, цягучай і смуроднай, як у скляпенні. Туды, куды мяне аднойчы завалок Ляля. Насуперак майму жаданню. Ачомаўшыся, адразу ж успомніла пра Цябе, Ляля. Ты такі ўразлівы, ты такі датклівы, такі непадрыхтаваны да жыцця, што мне захацелася пашкадаваць Цябе. Мама глядзела на мяне і плакала. Нічога трагічнага са мной насамрэч не здарылася. Я проста злякалася. І, калі б не яе пацалунак, я б падумала, што гэты плач яе — плач па сабе. Мама занадта добрая, каб любіць некага іншага. Ну вось, зноў я за сваё! Не звяртайце ўвагі! Проста, калі чалавеку добра, хочацца, каб было яшчэ лепш. Я глядзела на яе рукі. І рукі ў базіліцы жыл крануліся маіх. Белых і нежывых. І я падумала, што я іншая, не такая, як яна. Што гэта сустрэча насамрэч сустрэча двух нямых.

— Ты чакала мяне?.. Скажы, ты чакала мяне? — дапытвалася яна.

— Я чакала таго, хто ніколі да мяне не прыйдзе, — сказала я ёй тады.

# 14

Ён паспяхова здаў першую сесію і некалькі дзён ужо лайдачыў. Канікулы толькі пачаліся, і наперадзе была процьма вольнага часу. Буся яму не надакучаў. Калі верыць плёткам, то ён тыдзень ужо як з’ехаў з бацькамі на нейкі паўднёвы курорт. Мама таксама наведвала яго апошнім часам вельмі рэдка. Прызналася неяк, што цяжарная і што дактары раяць ёй зрабіць аборт, папярэджваюць, што роды ў яе ўзросце будуць цяжкімі, што ўсё ў рэшце рэшт можа скончыцца непрадказальна як для яе, так і для немаўляці. Ад аборту яна адмаўляецца, вырашыла, будзь што будзе. Яна часта ляжала ў бальніцы, пад наглядам дактароў. Унутрана ён быў незадаволены тым, што мама надумала завесці дзіця, але адкрыта сваю незадаволенасць ёй не выказваў.

Аднойчы ён атрымаў ліст ад сваёй незнаёмкі з наступным зместам: «Сяргей, мне вельмі хацелася б убачыць цябе. Прыходзь, калі ласка, у гандлёвы цэнтр, у нядзелю, каля дванаццаці. Ад цябе нічога не патрабуецца. Гуляй сабе па зале. Можаш выпіць кубачак кавы ў кавярні. Шукаць мяне не трэба. Я сама цябе знайду. Калі хопіць рашучасці, падыду. Калі не — прабач! Верагодна, яшчэ не час нам спавядацца. Прыйдзі, калі ласка. Я вельмі цябе прашу. Н.»

І ён пайшоў, купіўшыся на яе просьбы. Швэндаўся гадзіну, а мо і больш, па ўсіх аддзелах. Узіраўся ў твары мінакоў. Сядзеў у бары. Піў каву. Але ніхто да яго так і не падышоў, ніхто не паклікаў. Кожны з пакупнікоў быў заняты сабой, адным словам, ні літасці, ні спагады. Ён падняўся на эскалатары на трэці паверх — тое ж самае, тыя ж аднолька-

выя заклапочаныя твары і ніякай цікавасці да яго асобы. «Гэта здзек! — вырашыў ён нечакана. — Гэта самы натуральны здзек. Чуеш, ты!..» І без таго кепскі настрой сапсаваўся цалкам. Нехта зачапіў выпадкова яго плячом, калі ён спускаўся на першы паверх, і папрасіў прабачэння. Ён не адрэагаваў. Нейкая маладая жанчына з маленькім хлопчыкам на руках пацікавілася ў яго, як прайсці да абменнага пункту валют. Ён нечакана для сябе раздражніўся і нахаміў ёй. Жанчына зірнула на яго недаўменна і, пацiснуўшы плячыма, моўчкі абышла яго бокам.

— Хто ты? Дзе ты? Пакажыся! — залямантаваў ён, не стрымаўшы сябе. Эмоцыі перапаўнялі яго. — Я прашу цябе, чуеш, ты, пакажыся! З якой мэтай ты сочыш за мной, чаго прычапілася да мяне? Табе мала таго, што ты зрабіла са мной? На, паглядзі, палюбуйся... Шлюха!..

Прахожыя здзіўлена азіраліся і абыходзілі яго бокам. Ён не звяртаў увагі. Сарваў з сябе акуляры.

— Ну што, падабаюся я табе такі? — крыкнуў ён некуды ў пустату. — Скажы, падабаюся?..

Ад безвыходнасці ён заплакаў. Нехта паспрабаваў яго супакоіць і вывесці з залы на вуліцу. Ён вырваўся і кінуўся да выхаду.

— Адстаньце!.. Пакіньце мяне ўсе ў спакоі!..

— Сяргей, што здарылася?

Нехта моцна сціснуў яго за плячо.

— Я да вас звяртаюся, малады чалавек.

Ён узняў вочы. Твар Хініча свяціўся перабольшана ветлівай усмешкай:

— Калі мне нясцерпна кепска, калі мне не хочацца жыць, я іду ў цір і страляю. Гэты занятак здымае стрэс. Раю... Калі жадаеш, пайшлі са мной...

Яны моўчкі выбраліся з памяшкання. Абмінулі гарадскую ратушу і выйшлі на пешаходную вуліцу.

— Ну а цяпер расказвай, — зірнуў на яго патрабавальна Хініч. — Усё і па парадку...



І ён расказаў гэтаму чалавеку ўсё. Амаль усё. Як роднаму бацьку, якога ніколі не бачыў у сваім жыцці. Нешта даверлівае згледзеў ён у гэтых незнаёмых, чужых вачах. Тое, чаго так і не здолеў спазнаць у маміных. Хініч у сваю чаргу расказаў яму пра сябе.

— Розныя людзі траплялiся мне на жыццёвым шляху. Былі і такія, якія адкрыта, не хаваючы сапраўдных мэт, спрабавалі «ламаць» мяне праз калена. Не заўжды разумеў я іх. Злаваўся. Уражвала настырнасць гэтых людзей, уражвалі фантазіі, з дапамогай якіх яны імкнуліся дасягнуць сваіх мэт. Чаго толькі не прыпісвалі мне яны падчас сваіх «выхаваўчых лекцый»: і невуцтва, і несумленнасць, і ганарлівасць. А калі гэта ўсё не спрацоўвала, тады яны пачыналі мяне ігнараваць. Стваралі невыносныя ўмовы, і я сам, па ўласным жаданні, сыходзіў ад іх. Што мне яшчэ заставалася? Звальняўся з працы, разбураў наладжаныя сяброўскія сувязі. Вось толькі ці былі яны сяброўскімі, гэтыя сувязі, гэта яшчэ пытанне. Пакрысе абрастаў міфамі. Іншыя ківалі ў мой бок, паказвалі на мяне пальцамі: «Гэта не мы, гэта ён ва ўсім вінаваты… Ганарлівы…» Астатняе, як гаворыцца, было справай тэхнікі. Распаўсюджваліся плёткі, розныя чуткі, ствараўся вобраз маёй нікчэмнасці. Я глядзеў недаўменна на гэтых дзіўных людзей і не мог зразумець: дзеля чаго яны трацяць на мяне столькі сваёй энергіі, столькі часу, калі ў іх саміх процьма праблем? Ім бы самы час заняцца выхаваннем сваіх распусных дзяцей, паклапаціцца пра сябе. Не, ім патрэбны быў я…

Ён замаўчаў, палез у кішэню па цыгарэты. Закурыў.

— Насамрэч іх сапраўдныя мэты былі да прымітыўнасці простыя. Людзям было няважна, прымаеш ты іх пазіцыю ці не, ім быў важны сам факт нейкай зразумелай толькі ім адным «барацьбы». Ім было важна скарыць цябе, паставіць на калені. І ўсё гэта яны рабілі толькі дзеля аднаго — самасцвярджэння. Самае прыкрае схавана ў тым, што гэтыя людзі ў сваіх думках насамрэч згаджаліся са мной у многім, але яны ніколі не маглі прызнаць сваё паражэн-

не. Для іх спрэчка была сродкам для дасягнення сваіх мэт. Вось і ўсё. Людзям не важна, што адмаўляць, ім важна адмаўляць. І калі ты з імі не згаджаешся — табе кранты, да пабачэння. Меў рацыю Канфуцый, калі сцвярджаў: «Калі табе плююць у спіну, значыць, ты першы». Але ці так важна быць першым? — ён задумаўся і адказаў: — Так, быць першым — важна. Хаця б дзеля таго, што вам стануць пляваць у спіну, а не ў твар. І тады я памяняў сваю тактыку. Я зразумеў: быць чалавекам станоўчым можна толькі ў ідэальным грамадстве. Я перасіліў сябе і перастаў саромецца сваіх здольнасцей, я пайшоў па галовах, як гэта могуць назваць некаторыя чыстаплюі, каб дасягнуць таго, чаго дасягнуў. А я абараніўся, я атрымаў кватэру, я, я, я... Спіс можна доўжыць доўга. У мяне ёсць усё неабходнае для жыцця: грошы, кар'ера. Што яшчэ мне патрэбна? Галоўнае, не распускаць соплі. Усе гэтыя сюсю-мусю нікога, акрамя цябе самога, не цікавяць. Свет жорсткі. І слабакам у ім няма месца. Зразумеў?

Ён моўчкі кіўнуў галавой.

— Вось і малайчына, — лагодна паляпаў выкладчык яго па плячы. — А цяпер мы з табой пойдзем у цір, і я навучу цябе, як утаймоўваць свае эмоцыі.

— Вы што, — зірнуў ён недаўменна на Хініча. — Я ж сляпы... Амаль сляпы.

— Нікому такога не гавары больш, — не хаваючы сваёй незадаволенасці, сказаў Хініч. — Я навучу цябе таму, чаго не могуць яны. Я навучу цябе таму, што ім нават не снілася. Паглядзі на іх! — загадаў яму жорстка Хініч, кіўнуўшы галавой у бок вірлівай гарадской вуліцы. — Чым ты горшы за іх, чым? Я навучу цябе страляць. Ты станеш адным з лепшых. Чуеш?.. Чым ты горшы за іх?

— Нічым, — адказаў ён ціха.

— Вось так яно лепей, — спагадліва ўсміхнуўся Хініч. — Пайшлі...

Рэшту дня яны правялі ў ціры. Калі ён вяртаўся дахаты, ля пад'езда дарогу зноў яму перaступіла вар'ятка.

— Усё роўна цябе пацалую! Ляля!.. — усміхнулася яна нейкай штучнай несапраўднай усмешкай.
— Сволач! — не стрымаўся ён на гэты раз. — Пайшла прэч!.. Прэч!.. Прэч!..

# 15

Зачасцілі дажджы. Гарадская стракатасць ужо з цяжкасцю маскіруе навакольную шэрасць. Бачна, што лета сыходзіць. Я бязвылазна сяджу дома. Адна. У бессаромна-цесным пакоі, які даўно ўжо не памятае свежага паветра. З тых пор, як я ледзь не папала пад машыну, мама зноў адну мяне на вуліцу не выпускае. І цяпер у мяне няма магчымасці сачыць за Ім. Усё, што мне цяпер засталося, гэта зноў і зноў уяўляць Цябе, маляваць у сваіх думках. Але чым настойлівей я Цябе шукаю, тым меншая верагоднасць таго, што я некалі знайду Цябе. Гэта — ісціна, ад якой нікуды мне не дзецца. Я адчуваю, як б'юцца ўва мне два сэрцы: маё і Тваё. Аказваецца, я здольная несці не толькі чужыя грахі, але і нечыя жыцці. Я разумею, што абцяжарваю Цябе сваімі думкамі, напаўняю Цябе сваімі пакутамі. Але ёсць выключэнні з правілаў. Дом на мяжы адзіноты — цяпер не толькі мой дом. Так, я даўно жыву навобмацак, чужою прысутнасцю, Тваёю даверлівай паслухмянасцю. Так, я доўжу чаканне, але ў гэтым чаканні, якое я гадую ў пячоры сваёй адзіноты, роднае мне,назапашанае з неймавернай цяжкасцю. Усё гэта я аддам Табе, маё любінятка! Усе мае думкі, усе мае словы толькі для аднаго Цябе. Іх многа. Гэтых слоў павінна хапіць, каб расказаць Табе ўсю нашу праўду: і пра Прыгажосць, і пра Абсурднасць Свету, у якім нас даўно ўжо няма.

Цемра ненароджанага... Цішыня нявымаўленага...

# 16

Канікулы праляцелі імгненна. Не паспеў ён азірнуцца, як вярнуўся з Егіпта Буся. Як заўжды, шматслоўны і задаволены жыццём, ён лез з недарэчнымі пытаннямі, імкнуўся расказваць пра сваю нядаўнюю паездку, выхваляўся. Але ўсё гэта было яму нецікава. І ён выкарыстоўваў любую магчымасць, каб збегчы куды-небудзь ад гэтага чалавека і застацца аднаму. Пацяклі шэрыя, аднастайныя дні. Вучоба, дом, вучоба. Але, нягледзячы ні на што, ён па-ранейшаму знаходзіў час і наведваў цір. Захапленне стральбой паступова ператварылася для яго з дзіцячай забаўкі ў карысны і неабходны для душы занятак, набыло новы, сакральны сэнс. Ва ўсякім разе, гэта была дадатковая магчымасць сустракацца з Хінічам, да якога ён прывязваўся з кожным днём усё болей і болей. Той, як і абяцаў, навучыў яго страляць. У нечым ён нават ужо апярэджваў свайго настаўніка. Усе свае выхадныя цяпер ён бавіў тут, у ціры, разам з любімым выкладчыкам. Пасля заняткаў стральбой яны падоўгу бавілі час у бары. Ён піў чай, Хініч — піва. Размаўлялі на розныя тэмы, філасафавалі. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, яны шмат чаго знаходзілі адзін у адным агульнага. Буся неяк пацікавіўся:

— Білі, ты дзе гэта прападаеш апошнім часам? Няўжо кралю сабе завёў?

— Якая краля? — зрабіў ён недаўменны, абыякавы выгляд. — Залікі, іспыты... Сам ведаеш. Галава кругам ідзе.

— Заняўся б ты лепей Марынкай. Што? Не хочаш? Ну ты і чуча, Білі!..

— Знайшоў пра каго гаварыць, — адмахнуўся ён.

— Лаві момант, Білі! — іранічна скрывіў вусны Буся. — Дзеўкі самі да цябе лезуць, а ты ў шапку спіш.

Доля праўды ў яго словах была. Дзяўчына сапраўды праяўляла да яго цікавасць, і ён тое заўважаў, але кожную яе такую спробу цынічна спыняў і ў сабе гасіў любыя жаданні. «Не для мяне гэтыя сюсі-пусі», — пераконваў ён сябе. І як толькі выпадаў вольны час, нёсся ў гарадскі парк. Там яго чакаў Хініч. Потым яны стралялі і доўга сядзелі ў бары. Іх незвычайнае сяброўства цягнулася некалькі год ужо, пачынаючы з таго недарэчнага выпадку ў гандлёвым цэнтры. Лістоў ад сваёй незнаёмкі ён больш не атрымліваў. І пакрыху стаў забываць пра яе існаванне. У яго цяпер быў дарадца і сябар Хініч. А тое, што гэты чалавек нашмат старэйшы за яго, не бяда. У яго ёсць чаму павучыцца. Цяпер ён ужо быў на чацвёртым курсе і актыўна выступаў у мясцовым друку. З вострымі палемічнымі артыкуламі. Такое «чытво» было запатрабавана ў краіне. Людзі спадзяваліся на перамены. Людзі прагнулі праўды, не жадаючы верыць у тое, што іх зноў падманваюць. Захмялелыя ад нечаканай свабоды, яны не зналі, што рабіць з ёю. Кожны цягнуў коўдру на сябе. А краіна крок за крокам кацілася ў бездань.

Неяк пад вясну Хініч запрасіў яго да сябе ў госці. Упершыню за той час, што яны сябравалі.

— За што табе падабаецца Сартр? — нечакана спытаў у яго Хініч. Яны сядзелі ў зале і пілі чай. — Хацеў спытаць у цябе даўно, і ўсё неяк аддаляў гэтае пытанне. Не заходзіла размова, — доўжыў ён. — Не думаю, што ты захапляешся ім толькі з-за таго, што ён, як і ты, рос без бацькі.

Ён заружавеўся, завагаўся — гаварыць ці не гаварыць.

— Неяк, пасля вядомага вам здарэння, — наважыўся ён, — у мяне з Бусем, а гэта мой колішні сябар, адбылася адна размова. Ён тады пажартаваў і сказаў, што я нібыта заўважаны цяпер самім Богам… Як сапраўдныя Вялікія. І я прыняў гэта за чыстую манету. Пачаў цікавіцца жыццём Вялікіх Памер-



лых, шукаць падабенства з імі. Я разумею, гучыць гэта смешна, але так было. Зразумейце мяне правільна, на той час для мяне гэта было вельмі прынцыпова. — Ён на хвілінку задумаўся. — Напалеон?.. Не... Гэты чалавек не мог мяне зацікавіць. У яго біяграфіі я не знайшоў нічога захапляльнага. Мяне вабіла слова. І тады я адкрыў для сябе Сартра. Спачатку я даведаўся, што ён, як і я, быў аднавокім. Гэта толькі ўзмацніла маю цікавасць да яго. А потым я перачытаў усе яго творы. Амаль усе... І ведаеце, калі шчыра, то я знайшоў там шмат чаго карыснага для сабе.

Хініч загадкава ўсміхнуўся.

— Разумею, — сказаў ён. — На людзей трэба глядзець з вышыні. Так?.. Ці: пекла — гэта іншыя!

— Магчыма, — адказаў ён. — Але тут я ўдакладніў бы: адно другога не выключае. Безумоўна, я прачытаў і яго Герастрата, і яго п’есу «Пад замком», але... — ціха сказаў ён, здзіўляючыся абсалютнаму спакою.

— Што «але»?

Ад адказу ён ухіліўся. Паспрабаваў перавесці размову ў іншае рэчышча:

— А памятаеце, што вы сказалі мне пасля той першай вашай лекцыі, калі мы толькі пазнаёміліся? — нечакана спытаў ён.

— Безумоўна, — кіўнуў Хініч.

— Дарэчы, чаму вы тады вырашылі, што я не чытаў Музіля?

— Я засумняваўся ў табе. Хаця нешта і падказвала, што ты не той чалавек, які мог бы захапіцца Ульрыхам, — адказаў ён. — Ульрых — чалавек без уласцівасцей. А мне падалося, што ты не да гэтага імкнешся ў жыцці. І ўсё ж я вырашыў пачакаць, не спяшацца з высновамі.

— І?

— Я не памыліўся.

— Ведаеце, вы мелі рацыю, — прызнаўся ён. — Гэтая кніга не захапіла мяне. Некалькі разоў я спрабаваў яе чытаць і столькі ж разоў адкладваў. Мяне цікавіла іншае.

— Ты хацеў сказаць: мяне цікавіць іншае? — удакладніў Хініч.

— Няхай будзе так, — пагадзіўся ён. — Хаця якая розніца.

— Не скажы... Сяргей, у мяне да цябе прапанова, — нечакана сказаў ён і адкрыў дзверцы шафы. — Ёсць пляшка выдатнага французскага віна.

— Я не п'ю віно, — заспяшаўся ён адмовіцца.

— Разумею. Але мы толькі па кілішку. Не думаю, што гэта зашкодзіць нашай далейшай размове.

Хініч разліў віно і зірнуў неяк загадкава:

— Між іншым, даўно хацеў спытаць у цябе, ты знаёмы з нашым дэканам?

Ён насцярожыўся.

— Чыста візуальна. Па-мойму, ён чытаў курс лекцый па старажытнай літаратуры.

— Так. І як ён табе? Што скажаш?

— Інтэлігентны, культурны чалавек.

— Сяргей, не смяшы мяне. Якая культура? Спусціся на грэшную зямлю, — іранічна ўсміхнуўся Хініч. — Хочаш даведацца пра культуру, наведай грамадскую прыбіральню.

— Пры чым тут прыбіральні, — пакрыўдзіўся ён. Успрыняў яго словы як намёк на сваю колішнюю гісторыю.

— Пры чым?.. Ты што, не бачыш, што адбываецца ў краіне?.. Культурным чалавекам, Сяргей, можна быць толькі ў культурным грамадстве. А вакол нас адны злодзеі і хабарнікі. Ты не глядзі на яго інтэлігентнасць. Гэта толькі маска. Ён — хабарнік. Такім людзям не месца ў нашым універсітэце. Варта мне агучыць тое, што я ведаю пра яго, і яму крышка, і заўтра ён не дэкан. — Хініч счакаў хвілінку, потым дадаў: — Ты павінен напісаць артыкул. Пра яго.

— Я?.. — здзівіўся ён і засумняваўся: — Не... Я не ведаю яго... Баюся, што не змагу.

— Зможаш, — упэўнена сказаў Хініч. — Галоўнае, нарабіць грукату. А там час пакажа. Хочаш па шчырасці? Я павінен заняць яго пасаду. Ты мяне разумееш? Глядзіш — потым і табе

падшукаем цёплае месца. Абаронішся, застанешся на факультэце. Але пра дэталі крыху пазней. Тут трэба абмазгаваць усё як след, каб камар носа не падтачыў.

Ён прамаўчаў. Падняўся з канапы, падышоў да паліц з кніжкамі.

«Ён выкарыстоўвае мяне!» — не давала разняволіцца яму надакучлівая думка.

— О, у вас такая багатая бібліятэка! — здзівіўся ён шчыра, імкнучыся перавесці гаворку на іншую тэму.

— Так, — адказаў Хініч. — Большасць гэтых кніжак мне дасталася ад маіх бацькоў.

— А хто яны ў вас? Раскажыце пра іх, калі ласка, — папрасіў ён.

— Музыканты... Маці — скрыпачка. Бацька — дырыжор. Аб'ехаў палову свету са сваім аркестрам, — патлумачыў ахвотна ён. — Знаёмы быў з рознымі знакамітасцямі. Дарэчы, бацькі сабралі выдатную фанатэку. Калі ёсць жаданне, можам нешта паслухаць. Напрыклад... — Хініч не дагаварыў, падняўся з-за стала і накіраваўся да шафы.

— А ці ёсць у вас Пярт? — заспяшаўся ён.

— Пярт? Безумоўна, ёсць, — азірнуўся Хініч. На яго твары застыла здзіўленне. — Ты слухаеш Пярта?

— Так, гэта мой любімы кампазітар, — прызнаўся ён.

— Што ж, тады калі ласка, — сказаў Хініч.

— Калі гэта магчыма, пастаўце «TE DEUM».

— Не уповай, душа моя, на телесное здравие и на скоромимоходящую красоту, видиши бо, яко сильным и младым умирают, но возопий: помилуй и мя, Христе Боже, недостойного, — задаволена ўсміхнуўся Хініч.

— Так, гэта канон пакаяння...

Рэшту вечара яны бавілі пад музыку Пярта. Пляшка была дапіта. Віно п'яніла і разнявольвала. Размова павольна перацякала з аднаго рэчышча ў іншае, і ён не заўважыў, як мінуў час. Яму даўно трэба было збірацца дахаты. Ён заспяшаўся.

— Не думаю, што ёсць сэнс цягнуцца праз горад такой непагаддзю, — спыніў яго нечакана Хініч і зірнуў з нейкай

непрыхаванай пяшчотай. — Заставайся… Канапа шырокая, месца хопіць.

— Ведаеце, я не прывык спаць на чужым ложку, — паспрабаваў ён адмовіцца. — Я не змагу заснуць.

— Усе мы іншы раз робім тое, чаго раней не рабілі, — сказаў ён загадкава і паспяшаўся раскласці канапу. Ён лёг і затаіўся ў чаканні. Не вымавіў ніводнага слова нават тады, калі адчуў на сваіх плячах цёплыя мужчынскія рукі Хініча…

# 17

Ён цягне мяне за сабой. Уніз па сходнях. Ён абражае мяне і груба штурхае ў плечы. Мне варта крычаць, не падпарадкоўвацца ягонаму гвалту, а я маўчу. Я ўсміхаюся і маўчу. Відаць, гэта яго раздражняе. Я ведаю, я перакананая, людзей раздражняе пакорлівасць іншых. Што дрэннага я зрабіла яму? За што ён мяне б'е?..

Мне страшна. Божа! Каб вы толькі ведалі, як мне страшна!

— Ляля!.. — шапчу я ад безвыходнасці.

Ён абыякавы і непрабівальны. Ён падобны да маёй мамы. Яна была такой жа непрадказальнай, калі глумілася над маёй лялькай.

— Ляля! — ледзь чутна паўтараю я.

Вакол ні душы. Толькі я і ён. Цёмна і душна. Недзе блізка зусім паблісківаюць шкельцамі яго акуляры.

— Ляля!..

— Заткніся!.. Заткніся!.. Заткніся!..

Знадворку праз разбітыя шыбіны ў памяшканне сочыцца скупое вечаровае святло. Разам са скразнякамі прарываюцца і павольныя невыразныя гукі скрыпкі. І здаецца, няма ў гэтым свеце нічога больш пяшчотнага і прыгожага…

— Ляля!.. Ляля!.. Ля…

# 18

Вярнуўшыся ад Хініча, ён адразу ж палез у ванную. Доўга мыўся. Здавалася, што змывае з сябе нейкі векавы зямны бруд. Другі раз у сваім жыцці ён адчуваў сябе абражаным і зняважаным. Разуменне нікчэмнасці, бессэнсоўнасць свайго існавання наводзіла яго толькі на адну думку. З гэтым жыццём трэба было нешта рабіць. І яму захацелася памерці. Ён знайшоў невялічкую вяроўку ў шафе і завязаў на ёй вузел. Але на большае ў яго не хапіла рашучасці. Ён пастаяў некалькі хвілін у роздуме і выкінуў вяроўку ў сметніцу. Зноў палез пад душ. Жаданне мыцца па некалькі разоў на дзень стане для яго з гэтага дня неабходнасцю. І ўсё ж, нягледзячы ні на што, ад сустрэч з Хінічам ён не адмовіўся. Хутчэй наадварот, цяпер яны сталі бачыцца яшчэ часцей. Страх перад тым, што студэнты западозраць іх сувязь, вымушаў ісці яго на розныя хітрыкі, ён, як мог, стаў хаваць ад іх гэтае сваё сяброўства.

— Білі, а ты, гляджу, далёка пойдзеш! — сказаў яму неяк пры сустрэчы Буся. Ён быў, як заўжды, прамалінейны і беспрынцыпна жорсткі. — А я ўжо, прызнацца, палічыў цябе за размазню.

— Ты гэта пра што? — спытаў ён, зрабіўшы недаўменны выгляд.

— Я, Білі, пра твой артыкул, — усміхнуўся загадкава Буся. — Ты, пэўна, не ў курсе яшчэ. У Мамонькі інфаркт.

— Інфаркт? — здзівіўся ён.

— Так, Білі, інфаркт. Пасля твайго артыкула, — удакладніў Буся.

— Я тут пры чым?.. Я напісаў тое, што лічыў патрэбным, — паспрабаваў ён апраўдацца.

— Безумоўна, Білі, безумоўна! — усміхнуўся ён. — Ты ў нас спецыяліст па праўдзе. Але цяпер табе, Білі, пажадана ахову мець. Глядзіш, замочаць у пад'ездзе, як Лісцева. За праўду, Білі, — недарэчна пажартаваў ён.

Ён сумна ўсміхнуўся.

— Ну, а калі без жартаў, — дадаў Буся пасля непрацяглай паўзы, — то ёсць адна прапанова ў мяне да цябе. Адзін мой сябар прадае «Макарава». Шукае пакупніка. Не хацеў бы набыць? Калі што, магу пагаварыць з ім.

— Навошта мне пісталет? — здзівіўся ён.

— Ну, мала на што... Раптам спатрэбіцца. Ты ж, кажуць, стральбой займаешся. Глядзіш, аднойчы як знойдзеш. Час цяпер такі — жорсткі, небяспечны. Падумай.

— Ладна, падумаю, — паабяцаў ён.

Яны развіталіся. Ён адразу ж патэлефанаваў Хінічу.

— Ты чаго замітусіўся? — асадзіў яго той. — Ты тут пры чым?

— Як жа, — выціснуў ён заікаючыся. — Студэнты пляткараць, што нібыта ўсё гэта з-за мяне, з-за майго артыкула.

— Выкіні з галавы, — супакоіў яго Хініч. — Ведаеш, колькі такіх артыкулаў зараз строчаць? І што, кожны, каго гэта тычыцца, інфаркты атрымлівае? Не дуры, Сяргей!

Ён задумаўся.

— Скажы лепей, чым займаешся? — спытаў Хініч.

— Ды нічым, — адказаў ён.

— Прыязджай тады, пастраляем.

— Можна, — пагадзіўся ён.

— Адзін мой знаёмы адкрыў зал ігральных аўтаматаў. Там столькі розных «стралялак». І бар ёсць, дарэчы. Можна потым там будзе пасядзець, — прапанаваў Хініч.

— Можна, — пагадзіўся ён.

Рэшту дня яны прабавілі ў ігральным зале. «Стралялкі» сапраўды захаплялі. Яму падалося нават, што ад іх можна атрымліваць больш асалоды, чым ад стральбы ў ціры. Ва ўсякім разе, яму спадабалася.

Вечарам патэлефанаваў Буся і сказаў, што Мамонька памёр.

— Схадзі ў царкву, Білі, — пажартаваў ён. — Пастаў свечку.

Ён сціснуў вусны ад пагарды. Успомніўся момант, калі Буся прымацоўваў да яго параненага вока мамін абразок з выявай Божай Маці.

— Я атэіст, — выціснуў ён праз сілу, не хаваючы свайго раздражнення. — Яшчэ ў дзяцінстве, там, ля рампы, я зразумеў, што верыць і давяраць можна толькі ў свае сілы і сабе. Памятаеш, як ты…

Ён не дагаварыў.

— Ды памятаю я ўсё, — заспяшаўся Буся і зноў засмяяўся.

Ён уявіў нават гэты яго скажоны, вар'яцкі твар.

— Буся, я тут падумаў, — сказаў ён пасля непрацяглай паўзы.

— Ты пра што? — не зразумеў яго Буся.

— Ну, я наконт тваёй нядаўняй прапановы.

— А… Выдатна. Толькі хачу адразу цябе папярэдзіць, Білі, гэта небяспечна. За гэта пасадзіць могуць. Ты добра падумаў?

— Так, я падумаў, — сказаў ён упэўнена. — Колькі гэта ўсё будзе каштаваць?

— Дамовімся…



# 19

Яму ёсць што сказаць мне. Ён — сведка гэтай эпохі. Калі я гляджу на яго ўзнятую, застылую ў паветры руку, мне пачынае здавацца, што ён цягне яе да мяне, каб пагладзіць мяне па галаве. Я ўхіляюся. Я баюся яго. Як і Лялю. Яны аднолькавыя. Людзі без душы. Світальны промень кранаецца маўклівай каменнай постаці, і безжыццёвы мармуровы твар ажывае. Я прыходжу сюды, каб выпытваць у яе таямніцы.

— Людзі баяцца таго, чаго не ведаюць. Людзі баяцца таго, чаго не могуць разгледзець. Заплюшчы вочы і глядзі. Усё кепскае адбылося ўжо, — нагадвае мне яго векавая, ліслівая ўсмешка. — Проста людзі яшчэ не заўважылі гэтага.

— Але тое, што засталося, такое ж, што і сышло, — непераканаўча шапчу я і гляджу на яго са здзіўленнем. Вочы расказваюць тое, аб чым маўчыць яго маўчанне. — Ці павінны маўчаць мы аб тым, аб чым не маем магчымасці гаварыць? Кім стану я, калі мяне не стане?

— Людзі імкнуцца да вечнасці...

— Але я нават не ведаю, як мне жыць тут, на зямлі. Мне ніхто не гаварыў пра гэта.

— Раззлуй іх. Быць добрай табе не да твару.

— Я раблю тое. Несвядома. Але ў мяне ёсць свая гісторыя.

— Твая гісторыя ганебная ад пачатку і да канца. Ты цягаеш за іх іхні цяжар. Скінь яго з сябе.

— За каго за іх?

— За іх...

— І што далей?..

— Не думаць, а проста быць...

# 20

Хініч заняў месца дэкана. Як і разлічваў. Адразу ж пасля смерці Мамонькі. Бачыліся яны цяпер вельмі рэдка. Прычыну гэтага кожны тлумачыў па-свойму. На носе былі дзяржаўныя іспыты, і ён цэлымі днямі праседжваў у чытальнай зале. Калі выпадаў вольны час, бег у цір, пастраляць. Гэта быў адзіны занятак, які яшчэ прыносіў яму асалоду. Тут, у ціры, хоць і зрэдзь, яны бачыліся з Хінічам. Іспыты ён здаў на выдатна. Атрымаў чырвоны дыплом. Хініч, як і абяцаў, прапанаваў яму пасаду на кафедры, але ён адмовіўся. Папрасіўся на працу ў газету. Хініч дапамог, перагаварыў з кім патрэбна, праўда, за гэта давялося разлічвацца дадаткова.

— Пакажы гэтым засранцам, як трэба пісаць! — параіў яму Хініч, калі справы ўладзіліся. — Па-першае, гэта дадатковая магчымасць паказаць, на што ты здатны. Па-другое… — Ён завагаўся. — Чалавек, пра якога я хачу, каб ты напісаў, — вельмі патрэбны мне. Ведаеш, ёсць людзі, а ёсць нелюдзі… І гэтыя нелюдзі замінаюць жыць нармальным людзям. Нармальныя людзі заўжды ў меншасці. І іх трэба падтрымліваць. Разумееш?.. Час зараз такі… Па галовах, сукі, ходзяць. Сяргей, вельмі прашу цябе, пастарайся. Разбярыся як след ва ўсім, пранюхай, намацай слабыя месцы. Што мне цябе вучыць…

Ён пастараўся. Вучыць яго, як гэта робіцца, не мела патрэбы.

Яны пачалі бачыцца яшчэ радзей. Цяпер нават цір ён наведваў адзін. Пры сустрэчах кожны спасылаўся на занятасць, хаця сапраўдныя прычыны крыліся ў іншым, аб чым можна было толькі здагадвацца. Ён адчуваў нейкую неда-

казанасць, але ніякіх захадаў, каб палепшыць сітуацыю, не прадпрымаў. Прадчуваў канчатковы разрыў рана ці позна, усё роўна непазбежны. А вырашылася ўсё да агіднасці проста. Аднойчы яму пазванілі з бальніцы і паведамілі, што Хініч у рэанімацыі, што ў яго інсульт, што крызіс, праўда, мінуў, але стан яго па-ранейшаму цяжкі. Гэтая навіна выбіла яго з каляі. Гэта быў сапраўдны шок для яго. Яшчэ ўчора здаровы, жыццяздольны, самаўпэўнены і самадастатковы чалавек сёння стаў не патрэбнай нікому абузай. У гэта было проста немагчыма паверыць. У бальніцу ён не паехаў. Не хапіла духу. Толькі праз месяц, калі Хініча выпісалі і калі ён сам аправіўся ад шоку, ён наведаў яго дома.

На кухні было душна. У кубачках на стале стыла гарбата. Прыгатаваў ён яе сам, ад безвыходнасці, і цяпер не ведаў, што з гэтым рабіць. Хініч быў не здольны самастойна трымаць у руках кубак. Яго трэба было паіць з лыжкі. Па ўсім відаць, гэтым займалася жанчына, якая з ветлівасці пакінула іх адных. Левае вока яго было прыплюшчаным. Века раз-пораз нервова ўздрыгвала. Узнікала ўражанне, што ён імкнецца яго расплюшчыць і не здольны зрабіць гэтага. У правай руцэ Хініч трымаў асадку і некалькі хвілін ужо намагаўся дацягнуцца ёю да чыстага аркуша. Як сказала жанчына, якая даглядала яго, гэта пакуль адзіны сродак зносін. Ён глядзеў на свайго нядаўна яшчэ сябра, і яму хацелася заплакаць. Гэтая ненаўмысная нязграбнасць выклікала гідлівасць.

Ён адчыніў фортачку. Са свежым паветрам з вуліцы ў пакой уварваўся дзіцячы смех. З акна быў выразна бачны вяслярны канал — адно з любімых іх месцаў. Неаднойчы яны блукалі ўздоўж брукаванымі сцяжынкамі, марылі, спрачаліся, разважалі. Каб не расчуліцца канчаткова, ён адышоў ад акна і зірнуў на Хініча. Той усё яшчэ сіліўся нешта напісаць. Ён сеў насупраць. «Прывітанне!» — прачытаў ён на чыстым аркушы. Узняў галаву і моўчкі кіўнуў. Хініч паспрабаваў усміхнуцца. Левае павека заторгалася. І яму зноў захацелася заплакаць. Заплакаць ад бездапамо-

жнасці. Перад ім сядзеў зусім ужо іншы чалавек. Яго цяпер і чалавекам цяжка было назваць. Куды дзеліся нядаўнія гонар і пыха, глянец і самаўпэўненасць? Яго ахапіў жах. «Хіба мог я калі-небудзь уявіць, што стану адчуваць такую гідлівасць да гэтага чалавека?» — падумаў ён.

Хініч памкнуўся нешта сказаць. Твар яго пачварна перакасіўся. Рот адкрыўся, і адтуль вырвалася вонкі нейкае тужлівае, неразборлівае мыканне. Гэта толькі ўзмацніла яго гідлівасць. І яму захацелася бегчы адсюль прэч. На вуліцу. Куды заўгодна, толькі не быць тут, у гэтым пакоі, дзе пасялілася назаўжды маўчанне. Ён падхапіўся з крэсла і яшчэ раз зірнуў на Хініча. Цяпер ужо без ніякага спачування. Потым вырваў з яго рук асадку і няспешна вывеў на белым аркушы: «Папраўляйся. Я заўтра прыйду».

Ён хлусіў. Для сябе ён ужо вырашыў даўно, што ні заўтра, ні паслязаўтра ён сюды больш не вернецца. Гэта быў канец іхнім сувязям. Роля нянькі не яго роля. Ён выйшаў не развітаўшыся. Ад безвыходнасці доўга блукаў яшчэ па горадзе. Прабавіў хвілін дваццаць ля ціра, які тыдзень ужо быў зачынены на капітальны рамонт, зазірнуў у бар, але напіцца ад адчаю, як яму хацелася таго спачатку, не наважыўся. Неяк яшчэ ў дзяцінстве ён залез у сервант і выжлукціў з рыльца паўпляшкі лікёру. Мама знайшла яго ў ваннай напаўжывога, з пазелянелым ад пакут тварам. Яго ванітавала. Мама выліла сілком у яго горла паўкубка нейкай фіялетавай вадкасці, ад чаго яму зрабілася лягчэй. З тых часін ён спіртное стаў ігнараваць.

— Усё роўна цябе пацалую. Ляля!

Зычны, нахабны смех вар'яткі вярнуў яго да рэчаіснасці. Змяркалася. Дрэвы, нібыта гіганцкія цені, ухутвалі цесны, замызганы дворык. Недзе за імі, у апраметнай пачварнай цемры, затаілася зло. Адзінае, што ён чуў цяпер, гэта была музыка, гучаў яго любімы Пярт. Гучаў знакаміты яго «TE DEUM». Не, ён не мог памыліцца. «Скуль тут гэтая вялікая музыка? — падумаў ён з замілаваннем. — Толькі не цяпер!.. Толькі не цяпер!»

— Цяпер, Білі, цяпер!

— Толькі не цяпер! Толькі не цяпер!

— Усё роўна цябе пацалую. Ляля!

Ён адчуў, як ім авалодвае жывёльнае жаданне. Не разумеючы, што робіць, ён схапіў вар'ятку пад пахі і пацягнуў за сабой. Дзверы ў склеп былі прыадчыненымі. Ён чуў, як калоціцца сэрца, і не мог зразумець чыё, яго ці вар'яткі. Чарната выядала вочы. Паветра было перанасычанае прадчуваннем бяды. Ён сціснуў дзяўчыну ў абдымках, паваліў на смярдзючыя лахманы. Смех на хвіліну сціх. Нечакана яму прымроілася Моніка Велюр. Ён выразна ўбачыў яе спакуслівыя, юрлівыя вочы. Цела дзяўчыны было важкім. Ад яго сыходзіла прыемнае цяпло. Вочы Монікі Велюр блішчэлі ад вільгаці. Палова твару, якая была яму бачнай, зморшчылася ад болю. Боль існаваў толькі тут і цяпер. Усё астатняе — суцэльныя лініі абстракцыі. «З табою нават паразмаўляць нельга, — з прыкрасцю падумаў ён.— Ад цябе ніякага сэнсу». Вар'ятка прыціхла, затаілася. І ён не ведаў, што яму рабіць далей.

— Запомні, я — Сяргей! — чамусьці назваў сябе ён. — І ты мая першая жанчына.

Вар'ятка палахліва ўздрыгнула, нешта прамовіла ў адказ невыразнае. А можа, яму толькі ўсё прымроілася. «Божа, як стомна быць ласкавым з вар'ятамі! — падумаў ён нечакана. — Верагодна, ім не зразумелая мова пяшчоты. Верагодна, у іх свой свет каштоўнасцей...»

І мо ў тысячны раз ужо яму захацелася стаць вар'ятам.

І ніякай Монікі Велюр. І ніякага Пярта. Ён і вар'ятка. І сыры цёмны склеп...

# 21

Я жыву дыялогамі са сваімі адлюстраваннямі. А яшчэ з Табой. Мама ўжо здагадваецца пра тваё існаванне. Мама сцвярджае, што Табе да твару цемра. Яна хлусіць. Цемра з’ядае колеры і фарбы… Цемра мае пах Смерці. І склепа… А Ты — частка мяне. Ты — працяг мяне…



# 22

Дома яго чакаў новы сюрпрыз. Забіраючы пошту, разам з газетамі ён вывудзіў са скрыні ліст ад яе. Ён пазнаў гэты раскідзісты жаночы почырк. Збянтэжана ўздрыгнуў. Мінула гадоў пяць з таго моманту, як яна перастала яму пісаць, і ён нават спадзяваўся ўжо, што яго пакінулі нарэшце ў спакоі. Пачуццё трывогі вярнулася. Ён зноў адчуў сваю прыгнечанасць і непаўнавартаснасць. «Колькі можна! Колькі можна здзекавацца з мяне, шлюха?! Не магу так больш! Не магу!..» Ён скамячыў ад безвыходнасці канверт і са злосцю шпурнуў яго ў сметніцу.

Доўга мыўся. Намыльваў цела, змываў, зноў намыльваў, зноў змываў. І так да бясконцасці. На гадзінніку было ўжо каля дванаццаці, калі ён вылез з ваннай. Накіраваўся на кухню, заварыў чай, расчыніў акно і закурыў. Аднекуль з боку гарадской ратушы да яго даляцеў нечы ледзь чутны стогн. Ён прыслухаўся. Высунуўся з акна. Сапнуў свежага паветра. Недзе ўнізе пад ім застыла ў маўклівай пакорлівасці начная вуліца. Час ад часу яе яшчэ крэслілі запозненыя аўто. А асветленая з усіх бакоў ратуша на фоне змрочнага начнога неба набывала строгі, манументальны выгляд. Налітыя барвовай чырванню хмары плылі настолькі нізка, што, здавалася, вось-вось зачэпяцца за шпіль. Відовішча ўражвала сваёй містычнай штучнасцю і нязвыкласцю. Вецер разгойдваў ліхтары, і гадзіннік на шпілі вежы час ад часу палахліва ўздрыгваў. Ратуша нечым нагадвала яму аднавокага цыклопа. І тыя таемныя гукі, якія пладзіла ў ночы далячынь, толькі ўзмацнялі яго гэтыя ўражанні. Здавалася,

што гэта не скавытанне ветру, а дзікі рык нябачнай воку містычнай істоты. Стогн Цыклопа. «Вось ужо сапраўды, моц свету ў яго манументальнасці!» — падумаў ён нечакана. Успомніў пра выкінуты ў сметніцу ліст і пашкадаваў. Закарцела прачытаць яго. «А што, калі яго выкінулі ўжо, разам з іншым смеццем?» — жахнуўшыся, падумаў ён і кінуўся, як ашалелы, да дзвярэй. Холад каменных прыступак апёк босыя ногі і ацвярозіў. Ён зірнуў з жахам на каменныя сходы і зразумеў, што выскачыў босы, што ў спешцы нават не абуў тапкі. Вяртацца назад не стаў. Скамечаны ліст ляжаў на ранейшым месцы. Ён вывудзіў яго са сметніцы, расправіў. Дастаў з канверта здымак і невялічкі допіс.

«Прывітанне, Сяргей! — хуценька прабег ён вачыма па паперы. — Як паспееў ты заўважыць, звяртаюся так я да цябе ўпершыню. Магчыма, калі ты будзеш чытаць гэты ліст, я буду ўжо ў дарозе. Ва ўсякім разе, мы з дачкою вырашылі з'ехаць з гэтага горада. Цяпер назаўжды. Пажывём пакуль у сястры, а там час пакажа. Калі шчыра, сумленне маё ўсё яшчэ не на месцы. Баліць маё сэрца і за цябе, і за дачку. Адчуваю віну сваю перад вамі. Але, відаць, гэты грэх назаўжды мне. З-за гэтага і ў жыцці маім усё наперакасяк. Мала што мяне некалі кінуў каханы чалавек, дык у дадатак да ўсяго я яшчэ і нарадзіла ад яго дачку-вар'ятку. Сямімесячная яна ў мяне. Дасылаю табе гэты наш з ёю здымак. Нават не ведаю, з якой мэтай. Спадзяюся, на памяць. Наталлі маёй тут яшчэ толькі пяць гадкоў. Ды і я яшчэ зусім маладая. Вось такой я была, Сяргей, тады, калі ты захацеў на мяне паглядзець. Ну а калі не даспадобы табе гэта ўсё, можаш спаліць здымак ці выкінуць. Вырашай сам. Бывай. Цяпер ужо назаўжды. Н.». Ён расправіў скамечаную паперку і доўга ўзіраўся ў твар жанчыны з маленькай дзяўчынкай на руках. Яму падалося, што ён недзе іх бачыў ужо. Яны былі падобнымі, як дзве кроплі вады, да тых, на выяве, з мамінага абразка, таго, што некалі ў дзяцінстве яму прыкладваў да параненага вока Буся. Яго скаланула ад жаху. Маленькая дзяўчынка на здымку падалася яму знаё-



май. Безумоўна, гэта тая самая вар'ятка, мая вар'ятка. Гэтая думка нарадзіла новыя думкі. Яму прымроіўся цёмны, смярдзючы склеп. Ён выразна адчуў на сваіх руках прытарны пах дзявочага цела. І вільгаць у вачах. Яго зноў скаланула ад жахлівай здагадкі. «Так, так… Несумненна… Гэта тая самая вар'ятка! — падумаў ён, узіраючыся ў прыгожы твар на здымку. Болей таго, гэтыя людзі, аказваецца, жывуць побач, усяго праз пад'езд. Гэта ж Грынічы!.. » Ад адчаю ён кінуўся да дзвярэй. Палахліва пастукаўся ў суседнюю кватэру. Суседка акінула яго недаўменным позіркам.

— Што здарылася, Сяргей? — спытала яна палахліва. — Табе кепска?

— Так, мне кепска. Мне вельмі кепска. Мне невыносна кепска. Прабачце мяне, калі ласка! Прабачце!..

— Табе выклікаць хуткую дапамогу?

— Не, не… Не трэба, — адмовіўся ён і хуценька зачыніў за сабою дзверы.

— Ты нешта хацеў? — пачуў ён ужо наўздагон.

— Не, нічога, — адказаў ён.

Спытай у яго ў гэты момант, з якою мэтай ён стукаўся ў гэтую кватэру, наўрад ці ён змог бы што сказаць уразумелае. Адчуванне часу раптоўна сцерлася для яго. Ён кепска разумеў, у якіх вымярэннях цяпер знаходзіцца.

Калі пачуццё адчаю крыху схлынула, ён зноў вярнуўся на кухню. Акно было па-ранейшаму расчыненым. Вецер матляў надзьмутыя фіранкі, і яны, нібыта ветразі, бездапаможна біліся ў паветры. На падлозе валяліся раскіданыя паперы. Ён кінуўся падбіраць іх, але чамусьці перадумаў. Падышоў да акна. І яму нечакана захацелася зрабіць крок у гэтую цемру. Праз хвіліну жаданне знікла, і ён заспяшаўся зачыніць акно. І тут ён зноў пачуў гэтыя дзіўныя надакучлівыя гукі. Зноў патыхнула склепам. Недзе за акном, ля ратушы, стагнаў ад адчаю аднавокі Цыклоп.

Ён зачыніў акно. Хуценька апрануўся і кінуўся ўніз па лесвіцы да выхаду. На вуліцы было сыра і цёмна. Накрапваў дождж.

Ён па дыяганалі перасек бязлюдную вуліцу і подбегам рушыў да ратушы. Цяпер ён дакладна ведаў, скуль бяруцца гэтыя нікчэмныя гукі. Гэта скрыгаціць стрэлкамі гадзіннік. Размотвае час. «Мой час. Я спыню яго! — самаўпэўнена вырашыў ён. — Цяпер я ведаю, як гэта зрабіць». Ён нябачна падкраўся да ратушы, крануўся рукой халоднай, вільготнай клямкі. Дзверы былі замкнёныя. Патрапіць у вежу можна было праз дах суседняга дома. Ён кінуўся туды, але і там яго чакала няўдача. Дом быў пад аховай, і прабрацца на дах у яго не атрымалася. Ён зірнуў безнадзейна на гадзіннік, потым на сцяну з вялізным стракатым плакатам «Мы — народ!», і ад бяссілля заплакаў. Счакаўшы хвіліну, позіркам адшукаў непадалёк лаўку і рушыў да яе. Адчуванне, што за ім нехта сочыць, так і не мінула. Ён азірнуўся. З плаката яму нахабна ўсміхаўся шчаслівы малады чалавек…

# 23

Пра жыццё мне расказвае мама. Усё, што я ведаю пра яго, ведаю з яе слоў. Я, так бы мовіць, бачу свет яе вачыма. Мяне як бы няма яшчэ. Я — пакуль яшчэ толькі цень, адгароджаны ад людзей шклом гэтага акна. Мяне яшчэ толькі трэба выдумаць. Бо калі чалавека не ведаюць, хто ён і скуль, пра яго складаюць міфы. Чые словы ўваскрэсяць мяне? Ці стану я шэптам тваіх неагучаных думак? «Мама, мамачка! — крычу я і не магу да цябе дакрычацца. — Што ты ведаеш пра мяне? Што?.. Бездань між намі толькі павялічваецца. Ты заўжды саромелася мяне. Ты заўжды хавала мяне ад сваіх сяброў і знаёмых. Тваёй любімай фразай, якую ты паўтарала ўвесь час нястомна, была: «Чаму ты не памерла, калі была маленькай!» Голас чужы і фальшывы. Мама!.. Мамачка!.. Ад тваіх слоў вее холадам. Так, людзі толькі любяць памерлых. Няўжо і мне трэба памерці, каб ты палюбіла мяне?..»

# 24

Разбудзілі яго нечыя галасы. Ён прахапіўся і не зразумеў, дзе знаходзіцца. Агледзеўся. Пачынала світаць. Неба на даляглядзе заўважна пасвятлела. Гаслі адзін за другім ліхтары. Са сцяны ратушы, з плаката, на яго гэтак жа падазрона пазіраў усё яшчэ самадастатковы малады чалавек у нацыянальнай кашулі. Як на не вартую ўвагі драбнату. «Не, гэты горад занадта прыгожы для таго, каб ён змог мяне палюбіць! — падумаў ён без шкадавання. — Такому дзікуну, як я, тут не месца». Ён з нянавісцю зіркнуў на чалавека з плаката. Пагардлівы і самадастатковы позірк таго нібыта папярэдзіў: «Пустэльня — вось дзе твой дом!» Што стане ён рабіць далей, пакуль што не ведаў. Сядзеў і проста бязмэтна ўзіраўся ў далячынь.

У рэдакцыі паявіўся толькі пасля паўдня.

— Хм! — нявызначана мыкнула сакратарка ў адказ на яго сціплае прывітанне. Тлумачыць, што гэта азначае, не мела патрэбы.

— Што здарылася, Білі?..

— Ты закахаўся, Білі?

— Білі, табою цікавіўся галоўны рэдактар!

— Білі!.. Білі!.. Білі!.. — неслася з усіх кутоў. О, як ён іх усіх ненавідзеў!..

— Білі, хачу цябе пазнаёміць з нашай новай супрацоўніцай.

— Не трэба, мы з ім знаёмыя даўно, — заспяшалася маладая жанчына. Выйшла з-за стала і зрабіла некалькі крокаў яму насустрач. — Прывітанне, Білі!.. Няўжо я змянілася?.. Няўжо не пазнаў?..

— Чаму ж гэта, пазнаў, — нехаця адказаў ён.



Яшчэ б яму было яе не пазнаць. Гэта была Марына. Ва ўсёй сваёй прыгажосці.

— Рада бачыць цябе, Білі!

— І я таксама, — схлусіў ён, памаўчаў і чамусьці з выклікам сказаў: — Між іншым, мяне Сяргеем завуць.

— Даруй, я па звычцы, — папрасіла прабачэння жанчына. — Але тады я таксама даўно ўжо не Пстрычка. Я — Марына, — нагадала яна яму з тым жа націскам у голасе. Усміхнулася: — Вось і пазнаёміліся.

І тут яго прарвала.

— Я вам не Білі, чуеце, вы! — крыкнуў ён, звяртаючыся да калег. — У мяне ёсць імя. І памятайце, цярпець болей вашы знявагі я не збіраюся. Зразумелі?

— Білі, якая муха цябе ўкусіла?

— Мухі тут ні пры чым. Халтуршчыкі! Я звальняюся. Сёння ж. Усе чулі? — узмацніў ён да непазнавальнасці голас. — Мне надакучыла пісаць пасквілі на заказ.

Ён разумеў, што паводзіць сябе па-дзіцячы, сцэнічна. Але спыніцца ўжо не мог. Яго несла. Эмоцыі зашкальвалі. Ён адчуваў, як ад гэтай яго пыхі пацеюць шкельцы ў акулярах. Іх трэба было працерці. Але зняць ён іх не мог, інакш выставіў бы напаказ сваё калецтва. Дазволіць ім такой радасці ён не мог. Ён глядзеў на размытыя да непазнавальнасці, мітуслівыя постаці сваіх калег і люта ненавідзеў іх. Гэта ўсё, на што ён быў здатны ў гэты момант. Няёмкая паўза зацягвалася. Кожны рабіў выгляд, быццам бы займаецца сваёй справай. А яго распірала ад гонару. «Я змог! Я заткнуў ім раты!»

Напрыканцы працоўнага дня на калідоры яго дагнала Марына.

— Сяргей, — папрасіла яна лагодна. — Ці мог бы ты правесці мяне да аўтобуснага прыпынку?

У яе голасе было столькі загадкавасці і пяшчоты і цнатлівасці, што ён не здолеў ёй адмовіць. Нешта варухнулася, затрымцела на донцы яго душы, нарадзіла кволае жаданне. Яны ішлі бязлюднай вечаровай вуліцай і размаўлялі.

І яму падалося, што ўсё гэта некалі было ўжо. Ва ўсякім разе, усё гэта абвалілася на яго не выпадкова. Вялікае каханне менавіта так і пачынаецца, ведаў ён з кніжак. Марына была замужам, мела дачку, і гэты неаспрэчны факт абавязваў іх асцярожнічаць. Каб захаваць сувязь у тайне, ім давялося зняць кватэру на ўскрайку горада. Сустракацца ў яго дома яна катэгарычна адмовілася. Мужа яна свайго, па ўсім відаць, не кахала і не хавала гэтага. І ён чамусьці паверыў ёй. Адкрыўся. Падумаў, што ўсё гэта яго і назаўжды.

— Білі, не вер бабам! — папярэдзіў яго пры сустрэчы Буся. — Іх хлебам не кармі, дай пагуляць у пачуцці. Небяспечная і сумнеўная гэтая твая задума. А галоўнае, бесперспектыўная. З замужнімі кралямі звязвацца — гэта сябе не паважаць. Нагуляецца і кіне, вось убачыш. Білі, у яе дачка, муж, хата. Што дасі ты ёй узамен?.. Што, Білі?..

Ён не паслухаў яго, узгадаў, як некалі Буся сам заляцаўся да Марыны, і вырашыў: «Зайздросціць, сука! Выпадзі яму такая магчымасць — не прамінуў бы, не прапусціў бы...»

Ён закахаўся. Упершыню ў жыцці. Купіў машыну. Наўмысна, каб можна было забіраць Марыну з працы. Яны ехалі далёка за горад. Гулялі ўздоўж рэчкі, размаўлялі. Ён адчуваў сябе па-сапраўднаму шчаслівым. Вырашыў, што і яна кахае яго. Ва ўсякім разе, гнаў прэч негатыўныя думкі, рабіў усё магчымае, каб захаваць гэтую ілюзію.

Неяк на сайце знаёмстваў ён выпадкова натрапіў на адну не зусім звычайную абвестку. «Сямнаццацігадовы хлопец, — прачытаў ён, — жадае пазнаёміцца з мужчынам сярэдніх гадоў з мэтай далейшых інтымных стасункаў». Абвестка зацікавіла яго. Ён патэлефанаваў па пакінутым у ёй нумары, дамовіўся аб сустрэчы. Не, яму не патрэбна была інтымная сувязь, усё гэта ён некалі праходзіў ужо. Яму была важна гэтая сустрэча як сам факт, як з’ява. Яму хацелася зняважыць гэтага юнака, паказаць яму яго нікчэмнасць, як гэта зрабілі ў свой час з ім, а заадно і пераканаць сябе ў тым,

што ён не адзін такі зняважаны, што ёсць і іншыя, што іх шмат, што яны такія ж нікчэмныя, як і ён. Што жыццём на самой справе кіруе блуд. Што сэкс і ежа — галоўныя каштоўнасці, якімі захапляецца пераважная большасць людзей. Ён хацеў задаць гэтаму хлопцу ўсяго толькі некалькі няёмкіх пытанняў, а потым апісаць усё падрабязна ў сваім палемічным артыкуле. «Няхай чытаюць! — думаў ён. — Няхай ведаюць».

Сустрэча з юнаком расчаравала яго. Той раскусіў яго з першых жа слоў і паспрабаваў змыцца. На тым гісторыя і скончылася.

# 25

Я ведаю нешта такое, чаго не ведаюць іншыя. Я ведаю, як нараджаецца жыццё. Як кропля за кропляй працякае яно з аднаго чалавека ў іншага. Цяпер Ты нагадваеш мне пра сябе кожны дзень. Я чую, як б'ецца побач з маім тваё сэрца. Я люблю цябе, маё любінятка!

Мама ўчора сказала мне, што аддасць цябе ў прытулак, адразу ж, як толькі ты народзішся. Яна злая, яна катэгарычная. З ёй немагчыма размаўляць на такія далікатныя тэмы. Наіўная, яна думае, што можна распараджацца чужым жыццём. Маім… Тваім… Не бойся, мае любінятка!.. Не бойся!.. Я не аддам ёй цябе ніколі. Цяпер яна зноў кожны дзень вывозіць мяне ў горад. На інвалідны калясцы. Бярэ ў некага за грошы напракат. Цяпер я баўлю ў ёй час ля рынку. Я кармлю птушак. Гэты занятак прыдумала я для сябе сама. Іншы раз мне таксама хочацца быць птушкай — той белай, бяскрыўднай галубкай з чорнаю меткай на шыі…



# 26

Ён адарваўся ад успамінаў і агледзеўся. На вуліцы амаль ужо развіднела. Туман рассеяўся, і сонца заўважна ажывіла цесна-ту густа засаджанага дрэвамі дворыка. Недзе зусім блізка за-скавытаў сабака. З вуліцы данёсся аднастайны гул машын. Паявіліся першыя мінакі. Ён заспяшаўся. Абмінуў хуткую, але чамусьці передумаў і вярнуўся назад. Дзверцы ў машыне бы-лі адчыненымі. Ён падышоў бліжэй. Мужчына ў белым хала-це спешна выцягваў з салона каталку. «І што сёння за дзень такі! — расчаравана падумаў ён, пазіраючы падазрона на са-нітара. Ён не заўважыў нават, як да яго падышоў сусед. Не-малады чалавек, хударлявы, з няголеным тварам.

— Каго забіраюць? — пацікавіўся ён у мужчыны.

— Кагосьці з Грынічаў, — суха адказаў той. Коса зір-нуў на пакунак і, счакаўшы, дадаў: — Верагодна, вар'ятку…

Ён насцярожыўся. Вытрымаў паўзу. Сэрца трывожна сціс-нулася.

— Вар'ятку? — перапытаў ён. — А пляткарылі, што яны з'ехалі.

— Значыць, не з'ехалі, — адказаў мужчына. — Разрадзіла-ся без пары, недарэка. Дома. Кажуць, хавала сваю цяжарнасць ад маці. Хто іх цяпер зразумее, гэтых… — Ён змоўк, падбіраючы патрэбнае слова. Нарэшце знайшоўся і дадаў: — Гэтых хворых.

— Так! — цынічна кіўнуў ён у адказ. Памаўчаў і на ўсякі вы-падак яшчэ раз спытаў: — Дык яны не з'ехалі?

— Ды не… Кажу ж табе, — недаўменна зірнуў на яго сусед і чамусьці загадкава ўсміхнуўся. — Відаць, былі на тое пры-чыны. Цяпер ужо і не з'едуць…

— Гэта чаму?

— Куды ім цяпер з малым дзіцём ехаць? — з веданнем справы заўважыў мужчына. — Сын цяпер у яе на руках.

— Лагічна, — кіўнуў ён і насцярожыўся: — Сын?..

«Гэта ж мой сын!.. Мой!..»

— Сын. Хто мог падумаць... — падсумаваў сусед. Дастаў з пачка цыгарэту і закурыў.

— Пайду я, — нечакана заспяшаўся ён.

— На працу спяшаешся?

— Так, на працу, — схлусіў ён.

— Вядома, ідзі, — сказаў сусед, працягваючы загадкава ўсміхацца. Нечакана яму падалося, што, верагодна, сусед здагадваецца пра яго таемныя сувязі з вар'яткай. Інакш з якой прычыны ён лісліва пасміхаецца? Ад няёмкасці ці ад хвалявання, якое раптам апанавала яго, ён расчырванеўся.

Скрыня была даверху завалена смеццем, і для таго, каб пазбавіцца ад пакунка з птушкай, яму давялося капаць ямку. «Нібыта ў магіле», — падумаў ён, кладучы туды пакунак. Потым ён засыпаў яго смеццем і пазначыў месца позіркам, нібыта збіраўся яшчэ вярнуцца сюды. Пастаяў хвілінку і падаўся прэч. У кватэру падымацца не стаў, адразу ж накіраваўся да аўтобуснага прыпынку. «Радуйся, цяпер ты бацька! — змушана ўсміхнуўся ён. — А што, калі... — Думка абарвалася. Набыла новы сэнс. — А што, калі дзіцё таксама хворае, такое ж дэбільнае, як яго маці?.. Ці патрэбны мне тады такі сын?..»

Ад падуманага зрабілася млосна. Настрой канчаткова сапсаваўся. Ён нават не заўважыў, калі падышоў аўтобус. Заскочыў у салон амаль на хаду. «Што я цяпер скажу Марыне? — падумаў ён.— Як я ёй гэта ўсё растлумачу? Сын?.. Нафіга мне такі сын!..»

У гэтым горадзе былі месцы, дзяліцца прыгажосцю якіх з іншымі ён не збіраўся. Не з-за сквапнасці, вядома, а з-за страху, што сваёй прысутнасцю, сваім нядбайным позіркам нехта апаганіць тое святое, нешматлікае, што яшчэ засталося ў яго. Адным з такіх месцаў і была гэтая не-



вялічкая кавярня побач з гарадскім цірам. Цір быў зачынены даўно ўжо. Больш чым месяц тут вяліся нейкія будаўнічыя работы, і ён змушаны быў бавіць час у гэтай кавярні. Прыйшоў ён сюды і сёння. Тут яны павінны былі сустрэцца з Марынай. Ва ўсякім разе, паміж імі была такая дамоўленасць. Ён сядзеў за столікам і бязмэтна ўзіраўся ў запыленае, бруднае шкло. Ён чакаў яе доўга. Недзе за акном бруілася знаёмая да агіднасці вуліца. Ён піў каву і назіраў за панурым дажджлівым наваколлем. «Калі доўга глядзець на раку, па ёй абавязкова праплыве труп твайго ворага! — падумалася яму чамусьці. — Чаму на раку? — нечакана засумняваўся ён. — А чаму, скажам, не на вуліцу? На гэтую вось вуліцу...»

І ён сапраўды ўбачыў, як з розніцай у тры хвіліны па ёй праехалі два картэжы — вясельны і жалобны. Працэсіі рухаліся ў супрацьлеглых кірунках. Верагодна, так смерць здзеквалася з жыцця. А мо наадварот: жыццё не жадала мірыцца са смерцю... Безумоўна, шляхі гэтыя разыходзіліся апрыёры. Але цяпер яму было ўсё роўна. Ён і падумаць не мог, што менавіта ў гэтую хвіліну родзічы і блізкія развітваліся з яго бліжэйшым колішнім сябрам Хінічам. Ён не мог ведаць гэтага. Яго думкі былі надзённымі і зямнымі.

Ціха гучала музыка. Недзе на дне яго душы, у нетрах яго падсвядомасці. Верагодна, яна і была для яго ў гэтыя хвіліны тым самым пасрэднікам паміж зямным і касмічным, той плазмай, тым шматмерным аб'ектам, з дапамогай якога людзі размаўляюць з Вечнасцю. Ён любіў гэтую музыку за яе незямную неспасціжнасць. Гэта быў знакаміты і любімы ім Арва Пярт.

Ён адарваўся ад думак і зірнуў на гадзіннік. Мінула яшчэ адна гадзіна. Марыны не было. «Відавочна, яна ўжо не прыйдзе, — вырашыў цвёрда ён. — Ва ўсякім разе, чакаць яе болей не мае сэнсу». Ад гэтай думкі яму зрабілася не па сабе. «Навошта мне столькі болю, навошта мне ўсе гэтыя пакуты? Дзеля чаго ўсё гэта? Для таго, каб вымольваць кожны дзень сабе месца пад сонцам?.. І што далей?.. Што?.. Я не веру табе, Сартр!

Я не згодны з табой. У чалавека павінна быць мэта. А калі яе няма, няма і самога чалавека. Няма ніякага выбару, няма. Ты ёсць тым, кім ты ёсць. Астатняе — словы. Кожны валачэ тое, што ўзвалілі на яго іншыя. Чуеш мяне, Сартр! У адным ты меў рацыю: «Пекла — гэта іншыя». Але калі ты такі разумнік, скажы мне, навошта мне сын ад вар'яткі? Няўжо жыццё наша толькі ілюзія, фальшывая гульня нашых мрой і ўяўленняў?..»

Ён выйшаў з кавярні, падышоў да будынка, у якім некалі быў цір. Патаптаўся некалькі хвілін у роздуме, паназіраў, як вядуцца будаўнічыя работы, і рушыў няспешна ў бок цэнтральнай пешаходнай вуліцы. «Не прыйшла, — прамільгнула зноў надакучлівая думка і абудзіла адчай. Ён адчуў сябе адзінотным, выкінуты кімсьці бязмэтна ў безжыццёвую гэтую пустку. — Наіўны!.. Які я наіўны! Цяпер я ведаю дакладна, каб захапляцца жыццём, трэба нарадзіцца вар'ятам!..»

Нечакана ў натоўпе мільгнула знаёмая жаночая постаць. Ён спыніўся ў разгубленасці. Ён пазнаў насычаную багаццем фарбаў, знаёмую з дзяцінства блузку. Позірк дагнаў жанчыну, калі тая паварочвала на суседнюю вуліцу. Ён кінуўся следам, у вірлівую людскую плынь, паспрабаваў дагнаць яе. Жанчына знікла, незваротна растварылася ў неабдымнай стракатай прасторы, нібыта фантом у марыве ўскружаным ветрам танцы сухой лістоты. «Падалося, — падумаў ён са шкадаваннем. Зноў павеяла страхам: — Падалося!.. Д'ябал бы вас усіх пабраў! Навошта мне гэта ўсё?.. Навошта?.. Колькі можна цярпець гэты здзек!.. Не, пекла — не іншыя, Сартр, пекла ёсць мы самі…»

— Ненавіджу цябе, Сартр! — вымавіў ён ціха, амаль шэптам. — Ненавіджу цябе, Сартр! — крыкнуў ён з выклікам, счакаўшы. — Чуеш, я ненавіджу цябе, Сартр! Ненавіджу!... Ненавіджу!..

Рука пацягнулася да кішэні па пісталет. Захацелася страляць. Проста паліць у паветра. Паліць па людзях. Паліць абы-куды… Страляць!.. Страляць!.. Страляць!..

# 27

— Тужся, мая любая, тужся!..

Невялічкая чорная плямка на белай столі расце ўшыркі. «Што гэта?»— пульсуе крывёю імклівая, трывожная думка. Узіраюся ў непраглядную, апраметную цемрадзь. Шукаю зручны вугал агляду. Але ўсё ў гэтым пакоі бясформеннае і бязмернае. Верагодна, гэта і ёсць мой боль! Мой генетычны боль! Недзе над пісьмовым сталом застылі ў чаканні ходзікі. Ім без розніцы, чыё адлічваць жыццё. Маё. Тваё... Адрываю галаву ад падушкі. У сярэдзіне нямой чарнаты заўважаю белую, ледзь прыкметную кропку — нешта пакуль невыразнае яшчэ і нематэрыяльнае. Яно як нарыў на спакутаваным болем целе. Але кропка разрастаецца. Знутры. Міліметр за міліметрам яна выцясняе чарнату. Магчыма, так і нараджаецца жыццё. Ва ўсякім разе, калі магчыма апісаць гэты працэс словамі, я б яго апісала менавіта так. Жыццё нараджаецца з болю. Нехта схіляецца нада мной. Хто гэта, разабраць нельга. Суцэльная вільготная цемра. І голас... Далёкі і неразборлівы. Аднекуль з той чарнаты, з тых апраметных глыбінь цішыні.

— Тужся, мая любая, тужся!..

Цнатлівая чырвань акна. Маятнік павольна раскалыхвае цішыню. Мой позірк імкнецца зафарбоўваць чарнату. Боль пакрыху сціхае. Узнікае ўражанне, што ты недзе не ў напоўненым да краёў эфірнымі пахамі пакоі, а ў неабдымных глыбінях Вялікага Сусвету. Ты пылінка, нішто... Не ты адна. Гэтая планета ў памерах Сусвету таксама нішто. Вось толькі ці варта нам мерацыь такімі меркамі, недасяжнымі для разу-

мення? Ці не было б карысней вырашыць спачатку, хто мы ёсць для саміх сябе, для сваіх блізкіх?..

— Тужся, мая любая, тужся!..

Прыгажосць не ў жыцці, прыгажосць недзе па-за жыццём. Бо ўсё бессмяротнае. Ты таксама бессмяротная, і табе няма патрэбы даваць жыццё іншым…

— Тужся, мая любая, тужся!..

Першы світальны промень прыемна казыча мне твар. Злавесныя ліловыя адценні — меланхолія досвітку. Маятнік размяркоўвае цішыню. Стрэлкі расчышчаюць прастору для твайго болю. Не паэтызуйце зло!..

Я тут, я побач з табой, маё любінятка!.. Мы ўсё яшчэ жывём...

# 1

Акуляры ў яго — кананічнае пенсне. Такія рэдка цяпер хто носіць. Павядзе галавой і сонца за сабой у шкельцах цягне. Зазірнеш незнарок у бліскучую люстраную бездань, а там нічога — нямая безжыццёвая прастора, ні літасці, ні спагады. Тут не тое, што да душы яго не дастукацца, тут хоць бы самому жывым ды здаровым з яміны той выбрацца. Нешта гіпнатычнае, запраграмаванае на знявагу і гвалт, тоіцца ў яго пранізлівым халодным позірку. Адным словам, слізкі і непрыемны тып. Лысы, выродлівы. Аматар прымераць на сябе справядлівасць Бога. Такія, як я, для яго — смецце. Маленькія вочкі за тонкаю абалонкаю шкла, толькі пасмейваюцца: «Усё, што мне трэба пра цябе ведаць, я ведаю, проста чакаю, калі ты сам гэта мне раскажаш...» Зрэшты, і яго можна зразумець. Калі жыццё — натуральны адбор, то праўда на ягоным баку. І я не зусім упэўнены, што ў свеце існуюць словы, з дапамогай якіх можна вымаліць для сябе літасць і спагаду ў гэтага чалавека.

Хутка міне месяц, як цягнецца справа. І ўвесь гэты час ён размаўляе са мной на мове намёкаў, дабівае мяне, ломіць праз калена. Іншы раз мне здаецца, што не вытрымаю, дам задні ход, прызнаюся ў тым, чаго не рабіў ніколі. На гэта ён, відаць, і разлічвае.

— Гэта ты?.. — пачынае ён, як заўжды, здалёк. Робіць глыбокі ўдых і рэзка абрывае сказ. Словы павісаюць у паветры. Словы-сцвярджэнне?.. Словы-пытанне?.. Паспрабуй здагадайся, што ён хоча гэтым сказаць. Адчуваю, як пад кашуляй па целе бягуць дрыжыкі. Асоба ў акулярах нервова пагойдва-

ецца ў крэсле — цягае за сабой у шкельцах палахлівае жнівеньскае сонца — і нешта запісвае ў нататнік. Першае, што прыходзіць у галаву ў такія хвіліны, гэта ўстаць і не развітваючыся сысці прэч. Хоць куды, абы толькі не патураць гэтаму вар'яцтву.

— Гэта ты? — паўтарае ён пакепліва праз хвіліну. З заўважным націскам, быццам бы хоча паведаміць нейкую важную навіну. І зноў паўза. І зноў невыноснае працяглае маўчанне. І зноў словы — намёк на тое, што ў кожнай бяссэнсіцы ёсць свой, вядомы толькі яму аднаму сэнс. Акно адчынена. Лёгкі ветрык цярэбіць паркалёвыя фіранкі. За імі аблезлы карніз суседняга дома і неабдымнае, пазбаўленае летняй свежасці неба. А яшчэ сонца — бляклае, выліналае ад нядаўніх зацяжных дажджоў. Дрэвы гнуцца і трывожна шапацяць лістотай. Узіраюся ў мутную заваконную шэрасць і імкнуся ігнараваць непрыемнага мне чалавека. Заглыбляюся ў думкі — нешта сваё, сарамлівае і ганебнае. Акунаюся з галавой, нібыта ў цёплы басейн. Як доўга ўсё доўжыцца! Глядзіш і нічога не бачыш. Слухаеш і нічога не разумееш. І ніякіх пачуццяў, і ніякага ўяўлення, нічога, акрамя толькі пустэчы. Зборышча хлуслівых супярэчнасцяў ды хаатычнае наслаенне дэкарацый, дзе вечна што-небудзь здараецца, дзе ніколі не ведаеш, што ёсць сапраўднасць, а што выдумка, дзе ніколі і ні ў чым не ўпэўнены: ты гэта ці толькі рэха нечага выпадковага ўспаміну, скупы адгалосак людскога болю, прадчуванне таго, чаго не было ды й ніколі не будзе. Але як разабрацца, як зразумець тое, чаго зразумець нельга? Найвялікшая драма жыцця — жыць і не ведаць, дзеля чаго жывеш... Але навошта мне ўсё гэта знаць? Ёсць рэчы, непадуладныя разуменню. На іх нельга зацыкліваецца. Пра іх дастаткова памятаць. Заўжды. Лёс! Смерць! Хіба гэта ўсё залежыць ад нашых жаданняў? Кожная рэч мае сваё прызначэнне, свой адзіны, спецыфічны пах, і адчуць яго могуць абраныя, на мяжы свядомасці, калі рвецца апошняя повязь з гэтым светам. Астатняе ўсё — прытворства,

